Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

№ 10
1930
Кастрычнік
Год выданьня IV



Месяц кідаў касыя праменьні.

# ШКАЛА

## грашовых узносаў па Беларускаму прамысловаму саюзу паляўнічай і зьверагадоўчай коопэрацыі на 1931 год.

| Катэгорыя | Група | Назва групы | Пай | | Уступныя | | Арганізацыйны | | Блянк-білет | | У касу узаемадапамогі | | Дзярж-пошліны | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. |
| 1 | а. | Чырвонаармейцы | — | — | — | 50 | — | — | — | 20 | — | 50 | — | — | 1 | 20 |
| | б. | Дэмабілізаваныя чырвонаармейцы на працягу году пасьля дэмабілізацыі | — | 50 | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 50 | — | — | 2 | 20 |
| 2 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць да 50 р. у месяц і партызаны Чырвонай арміі | 5 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 50 | 1 | — | 7 | 70 |
| | б. | Сяляне—члены калгасаў і камун, якія да ўступленьня ў калгас альбо камуну аслабаняліся ад с/г. падатку на працягу 2-х год знаходжаньня ў калгасе | 5 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 50 | 1 | — | 7 | 70 |
| | в. | Студэнты і вучні, якія атрымоўваюць стыпэндыю | 5 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 50 | 1 | — | 7 | 70 |
| | г. | Лясная варта, міліцыянэры і чыгуначная варта | 5 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 50 | — | — | 6 | 70 |
| | д. | Інваліды вайны і працы, якія атрымліваюць пэнсыю ад органаў Сацыяльнай Забясьпекі | 5 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 50 | — | — | 6 | 70 |
| 3 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 50 р. да 80 р. у месяц | 10 | — | 1 | — | — | 50 | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 13 | 70 |
| | б. | Сяляне—члены калгасаў і камун, якія да ўступленьня ў калгас альбо камуну плацілі с/г падатак | 10 | — | 1 | — | — | 50 | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 13 | 70 |
| | в. | Сяляне-адзіналічнікі, якія аслабанены ад с/г. падатку | 10 | — | 1 | — | — | 50 | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 13 | 70 |
| | г. | Асобы каманднага складу Чырвонай арміі, міліцыі і ДПУ, чыгуначная варта і лясная адміністрацыя, якія зарабляюць ад 50 р. да 80 р. у месяц | 10 | — | 1 | — | — | 50 | — | 20 | 1 | — | — | — | 12 | 70 |
| 4 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 80 р. да 125 руб. у месяц | 15 | — | 1 | 50 | — | 50 | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 19 | 20 |
| | б. | Асобы каманднага складу Чырвонай Арміі, міліцыі, чыгуначная варта і лясная адміністрацыя, заробак якіх ад 80 р. да 125 р. у месяц | 15 | — | 1 | 50 | — | 50 | — | 20 | 1 | — | — | — | 18 | 20 |
| 5 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 125 да 175 руб. у месяц | 20 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 25 | 20 |
| | б. | Сяляне-адзіналічнікі, якія плацяць с.-г. падатак да 20 руб. | 20 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 25 | 20 |
| | в. | Саматужнікі-адзіночкі і аб'яднаемыя ў арцелі | 20 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | — | 1 | — | 25 | 20 |
| | г. | Асобы каманднага складу Чырвонай арміі, міліцыі, ДПУ, чыгуначная варта і лясная адміністрацыя, якія зарабляюць ад 125 да 175 руб. у месяц | 20 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | — | — | — | 24 | 20 |
| 6 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 175 р. да 225 руб. у месяц | 30 | — | 3 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | 50 | 1 | — | 36 | 70 |
| | б. | Сяляне-адзіналічнікі, якія плацяць с.-г. падатак звыш 20 руб. процантнай надбаўкі | 30 | — | 3 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | 50 | 1 | — | 36 | 70 |

Працяг табліцы гл. на 20 стар.

№ 10

# Паляўнічы Беларусі

1930 году.

Штомесячная часопісь „Белкахотсаюзу“

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.

# Працаваць па-новаму

Адбыўшыяся 20—26 кастрычніка ўсебеларускія курсы-нарада старшынь раённых праўленьняў саюзу паляўнічых далі вельмі каштоўны матэрыял для далейшага разгортваньня работы паляўнічай каапэрацыі.

Разгарнуўшыяся з месц спрэчкі па дакладу „Белкохотсоюза“ былі накіраваны на работу ў раёнах у сувязі з ліквідацыяй акруг. Выступаўшыя таварышы адзінадушна ўхвалялі мерапрыемствы партыі і ўраду аб ліквідацыі акруг і ўмацаваньня раёнаў.

Ліквідацыя акругі адзначае перанясеньне ўсяго цэнтру цяжару работы ў раёны, адзначае падвышэньне ролі і адказнасьці раёнаў за выкананьне і правядзеньне ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўраду.

З спрэчак было відаць, што па нашай сыстэме работа раёнаў далёка яшчэ не перабудавана. Раённыя праўленьні ў большасьці сваёй яшчэ не павярнуліся тварам да паляўнічых—саўгасаў, калгасаў, вёскі.

Фармальна работа ў раёны перанесена, а па сутнасьці па-новаму раёны яшчэ не працуюць.

Варта адзначыць, што сам апарат цэнтральнага праўленьня „Белкохотсоюза“ працягвае працаваць па старынцы, яшчэ не прыстасаваўся да патрэб і прапаноў раёну.

Выразна і правільна адзначыў Кастрычнікаўскі пленум ЦК КП(б)Б, „што адным з галоўнейшых элемэнтаў перабудовы работы ў раёнах павінна быць ажыцьцяўленьне павароту ўсіх раённых арганізацый тварам да саўгасаў, калгасаў і вёскі, прадпрыемства, да ўсіх нізавых ячэек на сяле“.

І далей пленум прапанаваў „дабіцца перабудовы работы цэнтральных арганізацый, якая-б забясьпечыла канкрэтнае і дыфэрэнцыяльнае кіраўніцтва раёну з боку цэнтральных арганізацый і ўстаноў“.

Для нашай сыстэмы дырэктывы пленуму ЦК КП(б)Б маюць вельмі вялікае значэньне.

Паварот раёну тварам да саўгасаў, калгасаў, вёскі адзначае для нашай сыстэмы разгортваньне работы па каапэраваньні новых тысяч беднякоў і серадняков і гэтым самым садзейнічаць новаму калгаснаму прыліву, арганізацыі новых калгасаў. Гэты паварот азначае—мабілізаваць актыўнасьць мас на ліквідацыю прарываў у будаўніцтве і аднаўленьні паляўнічай гаспадаркі, на выкананьне ўсіх палітычна-гаспадарчых кампаній і мерапрыемстваў, праводзімых партыяй і ўрадам на вё цы.

Толькі з гэтага—з агульна-палітычна-гаспадарчых задач—павінна выходзіць і наша паляўнічая каапэрацыя.

Усялякім права-апартуністычным спробам перашкодзіць гэтай рабоце павінен быць дадзены самы рашучы адпор.

Другім важным пытаньнем, па якому разгарнуліся спрэчкі, гэта—паляўнічая гаспадарка.

Кепска абстаіць справа з аднаўленьнем паляўнічай гаспадаркі Дзіч зьнішчаецца шпарчэй, чым ідзе яе аднаўленьне,—пра гэта гаварыла большасьць таварышоў.

І гэта сапраўды так. Кепска і вельмі кепска працавалі да гэтага часу былыя акруговыя таварыствы, якія глядзелі на гэтую работу, як на другарадную, спусьціўшы рукавы глядзелі на гэта і раёны. Калі збока раённых таварыстваў фармальна ня быў абвешчаны лёзунг „Палюй, далей справа ня наша“, дык на справе такі лёзунг ажыцьцяўляўся.

Зараз, у сувязі з ліквідацыяй акруг, калі мы ў кожным раёне маем платны апарат, работу па аднаўленьні паляўнічай гаспадаркі мы павінны паставіць на баявую ногу, выконваючы яе ня толькі ў габінэтах і ня толькі адным старшынёй райбюро, а з усёй масай паляўнічых.

Зразумеўшы важнасьць і карысьць, якую прынясе паляўнічай каапэрацыі, разьвядзеньне трусаводзтва, таварышы з месц амаль усе спыняліся на гэтай галіне працы. Азнаёміўшыся з дзяржаўнымі трусятнікамі ў Сеньніцы (пад Менскам) дэлегаты пераканаліся ў мажлівасьці гадоўлі трусоў і абяцалі энэргічна ўзяцца за гэтту работу. Жыцьцёвым прыкладам дадзена ў гэтым напрамку зарадка. Зараз ня трэба даць гэтай зарадцы разрадзіцца. Нашай баявой задачай, нашым баявым лёзунгам зьяўляецца—у кожным раёне буйны трусятнік, у кожным саўгасе, калгасе, на кожным прадпрыемстве, у кожнай вёсцы—калектыўнае трусаводзтва.

## ЗЬМЕСТ

**Задачы, якія стаяць у сучасны момант перад паляўнічай каапэрацыяй: ВЫКАНАЦЬ ПЛЯНЫ ПУШНЫХ НАРЫХТОВАК, ДАБІЦЦА ТАГО, КАБ НІ АДНА ГАЛОЎКА ПУШНОГА ЗЬВЕРА НЕ ПАПАЛА Ў РУКІ ПРЫВАТНІКА.**

Паляўнічая каапэрацыя (раённыя праўленьні і ячэйкі, кожны паляўнічы) павінна ўзяць шэфства над трусаводзтвам і паставіць над гэтай галіной працы свой кантроль. З іншых важных пытаньняў, якія разглядаліся на курсах-нарадзе, гэта культурная работа ў нашай сыстэме.

Вялікую ўвагу заслугоўвае культурна-масавая работа, бо бяз узьняцьця культурнага ўзроўню паляўнічага, без уяўленьня кожным паляўнічым задач паляўнічай каапэрацыі, паляўнічай гаспадаркі ў сучасны рэконструкцыйны пэрыяд, мы надалей ня зможам будаваць паляўнічую гаспадарку. Адно з другім цесна зьвязана і адно ад другога залежыць.

У спэцыяльным дакладзе было абгаворана пытаньне культурна-масавай работы ў паляўнічай каапэрацыі. Больш-менш, таварышы азнаёміліся з задачамі, формамі і мэтадамі вядзеньня культурна-масавай работы ў нашай сыстэме. Зараз трэба ўзяцца за ажыцьцяўленьне гэтага, увязваючы гэтую галіну працы з штодзеннай нашай практыкай.

Часопісь „Паляўнічы Беларусі", як лепшы сродак для выхоўваньня паляўнічых, павінен таксама перабудаваць сваю работу, прыстасаваўшы яе да канкрэтных штодзённых запатрабаваньняў паляўнічых мас. Разам з гэтым і месцы, раённыя праўленьні і ячэйкі павінны зьвярнуць максымум увагі гэтай рабоце, прымаючы актыўны ўдзел у асьвятленьні адмоўных і дадатных бакоў работы паляўнічай каапэрацыі праз часопіс, а таксама па пашырэньні падпіскі на часопісь, выканаўшы заданьне аб вярбоўцы 25 тысяч падпісчыкаў на часопісь „Паляўнічы Беларусі" на 1931 падпісны год. Вось тыя асноўныя задачы, якія стаяць зараз перад намі ў зьвязку з рашэньнямі курсаў-нарады.

Вычышчаныя з нашага саюзу кулакі і іншы варожы элемэнт імкнуцца і будуць імкнуцца перашкодзіць у рабоце. Таму неабходна зараз-жа мабілізаваць бядняцка-серадняцкія масы паляўнічых, каб своечасова даваць рашучы адпор кулаку і яго агэнтуры і гэтым самым забясьпечыць пасьпяховае выкананьне намечаных чарговых задач.

# На штурм прарываў

— Што чуць з конкурсам па зьнішчэньню ваўкоў?—такія пытаньні ня рэдка чуеш ад паляўнічых.

Адказ на такія пытаньні пачуць цяжка. Які можна даць адказ, калі аб конкурсе нічога ня чуць. Але гэтыя пытаньні сьведчаць аб тым уздыме, які наглядаецца ў паляўнічых масах па будаўніцтву сваёй гаспадаркі. Паляўнічыя масы зацікаўлены ў зьнішчэньні драпежнікаў, ваўкоў, зацікаўлены станам сваёй гаспадаркі. Вось чаму нярэдка чуеш такога роду пытаньні.

**Па зьнішчэньню драпежнікаў наогул, а ў прыватнасьці ваўкоў,** у нас ёсьць прарыў, які неабходна, самым рашучым чынам, зараз-жа ліквідаваць. Ведама, паколькі конкурс па зьнішчэньню драпежнікаў, абвешчаны ў мінулым годзе, не адбыўся, дык зараз яго пачынаць і няма патрэбнасьці. Зараз ёсьць больш дзейныя, больш рашучыя мэтады працы, мэтады, высунутыя працоўнымі масамі ва ўсім нашым жыцьці—гэта сустрэчныя пляны, сацспаборніцтва і ўдарніцтва, вытворчыя манэўры.

Калі падлічыць тыя кілёграмы мяса свойскіх жывёл, а таксама дзічы, якія пападаюць у зубы ваўкам, дык з самымі моцнымі нэрвамі чалавек і той **ахне**. Калі кожны грам мяса нам так неабходны, так дараг.

На Беларусі ёсьць 30 тысяч паляўнічых—армія даволі вялікая для таго, каб узяцца за справу зьнішчэньня ваўкоў і ня толькі адстраляць, але і зусім вывесьці іх. Мы тут маем прарыў. Раённыя т-вы, паляўнічыя ячэйкі ў саўгасах і калгасах, на фабрыках і заводах, паляўнічы актыў яшчэ не разгарнулі сацспаборніцтва і ўдарніцтва. У гэтай справе яшчэ няма зруху.

Некаторыя, відаць, думаюць: „Гэткая вялікая справа—паляўнічая гаспадарка"! Такія думкі могуць быць толькі ў шкодніка, у ворага сацыялістычнага будаўніцтва. Кожны шрубік зьяўляецца часткай складанага мэханізму і калі ня будзе рабіць гэты шрубік, дык кепска запрацуе і ўвесь мэханізм. Паляўнічая гаспадарка павінна ісьці нага ў нагу з усім нашым жыцьцём. Яна павінна служыць на карысьць будаўніцтва сацыялізму.

Прарыў у рабоце па зьнішчэньні ваўкоў і іншых драпежнікаў павінен быць ліквідаваны. Сацспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыя брыгад па барацьбе з ваўкамі—вось тыя мэтады, праз якія павінна праходзіць гэтая работа.

**Зараз аб браканьерах.** Перш-на-перш я павінен сказаць, што сама назва „браканьер"—устарэлая назва. Памойму, браканьер ёсьць не „браканьер", а шкоднік, вораг будаўніцтва сацыялізму, інакш нельга кваліфікаваць гэту форму злачынства.

Між тым, мы ня рэдка бачым, як **некаторыя судовыя органы не разумеюць задач,** якія стаяць зараз перад паляўнічай каапэрацыяй. Нярэдка браканьера, які забіў бабра, суд штрафуе на 5 рублёў, а браканьера, які палюе бяз білетаў увесь час, зусім апраўдвае А ці ўлічвае суд, якую шкоду прынёс тэй ці іншы выпадак браканьерства? Ці ўлічвае суд тое, што паляўнічая гаспадарка зьяўляецца буйным эканамічным фактарам у сучасны момант.

Суд ня кіруецца нават тымі ўстарэлымі правіламі аб паляваньні, якія зьмешчаны ў бюлетэні СНК за 1927 год, № 17. Мне здаецца, што настала пара перагледзіць гэтыя правілы і зьмяніць артыкулы, якія кваліфікуюць браканьерства, як злачынства другараднае. Трэба браканьера кваліфі-

каваць, як шкодніка народнай гаспадаркі. Трэба мацней і больш хуткім тэмпам ліквідаваць прарыў у барацьбе з браканьерствам.

**Аб рабоце нашага цэнтральнага апарата**. У „Белкохотсоюзе“ ёсьць паляўнічазнаўца. Апроч таго, што аднаго паляўнічазнаўцы зусім недастаткова для ўсёй Беларусі, ён нагружан не па сваёй рабоце. Месца паляўнічазнаўцы не ў канцэлярыі „Белкохотсоюза“ а ў раёне, у бабровым запаведніку, заказьніку, вопытнай гаспадарцы, гадавальніку зьвяроў. Вядома, што ён павінен працаваць у габінэце і ў лябараторыі, але ўсё-ж яго месца не ў канцэлярыі.

**Ці ёсьць у нас прарыў у нарыхтоўцы пушніны і мяса дзічы?**

Бязумоўна, ёсьць. Раз ёсьць браканьеры—шкоднікі народнай гаспадаркі, раз ёсьць драпежнікі—ваўкі і іншыя, яшчэ горшыя, значыць ёсьць і прарывы ў нарыхтоўцы пушніны і мяса дзічы, нават і ў тым выпадку, калі-б кантрольныя лічбы па загатоўцы пушніны і мяса былі-б выкананы. Само сабой зразумела, чым больш мы зьнішчым ваўкоў, чым мацней ударым па браканьерах, чым лепш ачысьцім сваю каапэрацыю ад чужакоў, тым больш пападзе ў нашу каапэрацыю каштоўнай пушніны і ў нашы сталоўкі мяса дзічы.

**Мы павінны штурмаваць прарывы, якія яшчэ ёсьць у нашай рабоце.**

**Баявымі тэмпамі, шырокім разгортваньнем сацспаборніцтва і ўдарніцтва, правядзеньнем вытворчых манэўраў гэтыя прарывы павінны быць ліквідаваны.**

# За сацспаборніцтва і ўдарніцтва

Мусіць нідзе так кепска не праходзіць сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як у паляўнічай каапэрацыі Беларусі.

Некаторыя раёны, паляўнічыя ячэйкі і былыя акруговыя т-вы заключылі сацдагавары. Як выкананы гэтыя дагавары, сказаць цяжка ня толькі для пабочнага чалавека, але, відаць, і для тых, хто ўступіў па гэтаму дагавору ў сацспаборніцтва, бо ня было праверкі, як выконваецца ўзятае на сябе абавязацельства. У сацспаборніцтва ня была ўцягнута паляўнічая маса.

Нельга сказаць таго, што сацспаборніцтва і ўдарніцтва адыгрываюць малую ролю ў жыцьці нашай каапэрацыі і таму ўся наша работа павінна праводзіцца шляхам сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Возьмем, напрыклад, пушныя нарыхтоўкі ў гэтым годзе. Калі пушныя нарыхтоўкі будуць праходзіць на аснове сацспаборніцтва і ўдарніцтва за якасьць пушніны, за лепшую здымку і апрацоўку скуркі зьвера, за большую здабычу і здачу пушніны ў нашу каапэрацыю, ад гэтага выйграла б шмат дзяржава і наша каапэрацыя. Бо толькі ад гэтага і залежыць лёс загатовак.

Раней ня было ў сыстэме нашай каапэрацыі платных работнікаў у раёнах. Зараз такія сілы ёсьць, **павінны быць**. На месцах (прадпрыемства, калгас, саўгас, вёска) арганізаваны, **павінны быць арганізаваны** паляўнічыя ячэйкі. Вось праз гэтыя ячэйкі мы павінны і праводзіць усю гэтую работу. Ячэйка з ячэйкай, раён з раёнам павінны заключыць умовы на сацспаборніцтва, паасобныя паляўнічыя павінны абвясьціць сябе ўдарнікамі па здабычы зьвера, дзічы, лепшай апрацоўцы і здымцы скурак, здачы пушніны ў сваю каапэрацыю, а мяса дзічы—у спажывецкую каапэрацыю.

Усьлед за пушнымі нарыхтоўкамі надыйдзе пара ўзяцца за справу будаўніцтва—сапраўднага будаўніцтва—паляўнічай гаспадаркі. Гэта—ахова месц гнездаваньня і вывадкаў і пэрыяд памножаньня зьвера і птахі, барацьба з браканьерствам, драпежнікамі і іншымі, пад час здаецца зусім няважнымі, шкоднікамі. Як гэту работу правесьці, калі не сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам, якія павінны быць разгорнуты між паляўнічымі. На самай справе, ня можам-жа мы, пакуль што траціць паявы капітал на ахову паляўнічай фауны. От тут мы павінны знайсьці такі мэтад сваёй працы, якім-бы змаглі ўцягнуць усю паляўнічую масу ў бой за ахову зьвера і птахі, якія даюць нам вельмі каштоўныя ў гэты момант мех і мяса. Калі мы гэта ня зробім, дык зноў будзем крычаць пра тое, што мала зьвера, мала дзічы, сабакі шкодзяць, браканьеры разбураюць паляўнічую гаспадарку і г. д.

Далей, падпіска на часопіс „Паляўнічы Беларусі. Кантрольныя лічбы па падпісцы ў гэтым годзе дадзены рэальныя і іх трэба выканаць. Ніхто ня будзе адмаўляць, што наша часопіс зав явала масы, укаранілася ў гушчы паляўнічых і ў гэты момант паляўнічы, ня выпісваючы сваёй часопісі нават нямысьлімы. У часопісі друкуюцца палітычныя артыкулы, правілы паляваньня, якія павінен ведаць і захоўваць паляўнічы, абмен вопытам, парады, нарысы, як і калі паляўнічаць, на якога звера, літаратурная старонка; часопіс зьяўляецца лепшым рупарам культурна-выхаваўчай работы сярод паляўнічых.

Раённыя таварыствы павінны стаць ударнымі зьвеньнямі па збору падпіскі на часопісь „Паляўнічы Беларусі“, яны павінны заключыць сацспаборніцтва па збору падпіскі, лепшыя раёны, ячэйкі павінны ўзяць на грамадзкі буксір слабейшыя і кантрольныя лічбы, дадзеныя ЦП „Белкохотсоюзу“ і выдавецтвам „Беларуская Вёска“ павінны быць выкананы.

Не малую ролю павінны адыграць сацспаборніцтва і ўдарніцтва пры перарэгістрацыі паляўнічых на будучы год. Ёсьць яшчэ выпадкі ў шмат якіх раёнах засьмечаньня складу паляўнічых варожымі элемэнтамі, шкоднікамі, браканьерамі бышымі крымінальнымі элемэнтамі. Пры перарэгістрацыі іх неабходна выявіць, выключыць; сачыць, каб такія людзі не маглі пралезьці ў нашу каапэрацыю.

Пэўны вынік дасьць сацспаборніцтва, калі яно будзе не габінэтным, а пры ўдзеле шырокіх мас паляўнічых. Для гэтага перш-на-перш трэба праверыць, каб былі выкананы сацдагаворы, выявіць хворыя бакі, абгаварыць гэта пытаньне на агульных сходах.

Далей, неабходна арганізаваць брыгады з паляўнічых—асабліва такія брыгады неабходны ўвесну па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі.

А „Белкохотсоюз“ павінен кіраваць сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам, весьці масу ў бой за якасьць, за колькасьць.

**Бунтар.**

# Пушніну—паляўнічай каапэрацыі

Саюз паляўнічых за апошнія чатыры гады ўпарта дабіваўся манапольнага права нарыхтоўкі пушніны, выходзячы зусім з правідловага тлумачэньня: існаваньне побач з саюзам паляўнічых другіх нарыхтоўчых арганізацый дае магчымасьць разьвіцьцю браканьерства, і другое—паляўнічы зьяўляецца сябром саюзу і гэтага аднаго дастатковы для таго, каб уся пушніна, здабытая паляўнічым, была здадзена ў свой саюз.

Але-ж на справе выходзіла інакш. Да апошняга году ня ўсе паляўнічыя зразумелі тую выгаду, якая дае саюзу наогул і ў прыватнасьці кожнаму паляўнічаму, калі пушніна ідзе ў саюз. Аб гэтай выгадзе гаварылася і пісалася ня раз і ў кожным раёне на агульных сходах. Бяда ў тым, што сходы па раёнах праводзіліся адзін—два разы ў год, на якія зьяўлялася ў сярэднім ня больш 30—40 проц. усіх паляўнічых; вядома, што пры такіх умовах ня ўсе паляўнічыя ведалі аб тых задачах, якія праводзіў саюз наогул, і ў прыватнасьці ў нарыхтоўцы пушніны.

Значна адставала нарыхтоўка пушніны ў нас і па тэй прычыне, што другія загатаўцелі (Дзяржгандбел, Патрэбкоопэрацыя) часта пераплачвалі за пушніну, ня прытрымліваліся лімітных цэн і нават прэміравалі здатчыка пушніны дэфіцытнымі таварамі.

1929-30 год, дзякуючы таму, што паляўнічая маса была ўзварушана стварэньнем паляўнічых ячэек пры с-саветах і па некаторых раёнах, работа, праз ячэйкі шляхам спаборніцтва і ўдарніцтва, дала добрыя вынікі. Не патрэбна зачыняць вочы на тое, што пераключэньне работы з раёнаў на сельячэйкі праводзілася далёка ня ўсімі раёнамі. Тыя добрыя пачаткі паасобных раёнаў (Рэчыца—Барысаў і інш.), якія праводзілі выклікі на сацспаборніцтва, з прычыны адсутнічаньня праверкі выкананьня ня далі значных вынікаў, а, наадварот, былыя акругі ў гэтым напрамку амаль што бязьдзейнічалі.

У сучасны момант, у зьвязку з ліквідацыяй акруг і стварэньнем самастойных раённых таварыстваў, наша сыстэма мае магчымасьць разгарнуць усю працу. Раёны павінны ў гэтым квартале скончыць стварэньне паляўнічых ячэек на фабрыках, заводах, калгасах, саўгасах і праз іх, стварыўшы ў кожнай ячэйцы актыў паляўнічых, павесьці работу на новых рэйках.

Калі мы ў 1929-30 годзе мелі дасягненьне ў нарыхтоўцы пушніны:—выканалі ня 35 проц., а 58,5% заданьня, то ў гэтым годзе, пры стварэньні самастойных раёнаў, мы павінны выканаць не 50 проц. заданьня, якое нам дадзена, а ўсе 100 проц. Для выкананьня гэтага ў нас ёсьць усе магчымасьці. Сацспаборніцтва паміж ячэек і раёнаў павінна зьявіцца першым з мерапрыемстваў усяе нашае работы па загатоўцы.

Цэнтральнае праўленьне вылучыла раёнам мехтавары для прэміраваньня паляўнічых і будзе дабівацца, каб прэміраваць здатчыка пушніны прамтаварамі. Усяго на квартал (кастрычнік—сьнежань) саюзу паляўнічых дадзена нарыхтаваць на 79000 р. пушніны (апроч мехсыравіны).

Гэта заданьне нязначнае і намі павінна быць выканана з перавышэньнем. Трэба праз паляўнічыя ячэйкі, прыцягнуўшы да гэтае працы ўсю паляўнічую масу, зьвярнуць увагу на нарыхтоўку тхара і крата, якія дагэтуль нашай сыстэмай загатаўляліся вельмі ў нязначнай колькасьці.

Трэба жорстка сачыць за тым, каб прыёмку праводзіць па існуючых стандартах, не дапушчаць пераплат, але-ж і паляўнічы павінен атрымаць поўную каштоўнасьць пушніны.

Гаворачы аб пушнанарыхтоўках, нельга прайсьці міма другарадных нарыхтовак: грыбы сухія, лекавыя травы, ягады, вадзяны пацук, пацук звычайны, на якія райтаварыствы павінны зьвярнуць ня меншую ўвагу.

Ніводнага хваста здабытае пушніны паляўнічым у бок.

Гэты лёзунг павінен быць ажыцьцёўлен поўнасьцю.

**Марозаў.**



На прывале. А заяц як скокне ўверх!

# Задачы па сабакагадоўлі



Гадавальнік сабак.

Да гэтага часу сабакагадоўля ў нашай сыстэме была ў заняпадзе. Хоць да 1930 году пры „Белкохотсоюзе" і быў гадавальнік ганчакоў, але гэты гадавальнік ня даў станоўчых вынікаў і быў зачынены з прычыны таго, што панёс вялікія страты. Сабакі гадавальніка былі разданы паляўнічым ячэйкам і асобным паляўнічым у парадку кантрактацыі.

Што-ж датычыць гадоўлі сабак асобнымі паляўнічымі, то тут справа яшчэ горш. Тут сабакагадоўля залежыць ад волі і ўменьня самага паляўнічага. Калі ён захоча, дык пакідае шчанюкоў, калі не, дык не пакідае іх. А то бывае і так, што самая найлепшая па рабоце і добрая выжлоўка па экстэр'еру вязалася з непасредным выжляцом Ад такой вязкі нараджаліся ўблюдкі, няздольныя да паляваньня і якасьць і колькасьць добрых паляўнічых сабак зьменшылася.

Апроч усяго гэтага, у нас ня вёўся падлік добрых паляўнічых сабак. І да гэтага часу мы ня ведаем, колькі якіх сабак ёсьць у нашых паляўнічых. Мы ня ведаем, паляпшаецца ці пагоршваецца ў нас сабакагадоўля, зьніжаецца ці павышаецца якасьць сабак.

Каб палепшыць якасьць і павялічыць колькасьць паляўнічых сабак, неабходна толькі зьвярнуць увагу на гэту справу, пачаць кіраваць ёй, узьняць паляўнічую грамадзкасьць і зацікавіць яе правільнай сабакагадоўляй.

Трэба, каб раённыя праўленьні т-ваў паляўнічых пачалі падлік у сваіх раёнах завадзкіх сабак, вывучылі-б іх якасьць і пароднасьць і лепшых па экстэр'еру і рабоце з кожнай пароды адабраць для атрыманьня патомства ад іх.

Апроч таго, раённыя т-вы павінны мець пляны па сабакагадоўлі, давесьці гэтыя пляны да ячэек і паляўнічых, самім працаваць у гэтым напрамку, кіраваць сэкцыямі сабакагадоўлі ў паляўнічых ячэйках, даваць паляўнічым, а таксама ячэйкам парады па гэтым пытаньні.

Прыплод ад гэтых завадзкіх сабак павінен кантрактавацца раённымі т-вамі і раздавацца тым паляўнічым, якія будуць мець жаданьне гадаваць сабак, і тым, якія дадуць пушніну і дзічь за іх. Праўленьні т-ваў павінны дапамагаць паляўнічым, якія будуць гадаваць такіх сабак ня толькі маральна, але і матэрыяльна. Яны павінны задавальняць іх мукой і г. д.

Далей, каб сабакі ня былі кепскімі па рабоце, (хаця і добрымі па экстэр'еру), іх трэба нагоньваць (ганчакоў) і навучаць па птасе (выжлаў). Лепшым паляўнічым, ведаючым гэтую справу, трэба аддаваць для навучаньня сабак, а ў лік платы даваць ім шчанюкоў ад іх.

Якасьць сабак залежыць ад трэніроўкі. Гэта ўсім вядома. Вось на гэта і трэба зьвярнуць увагу. Для таго, каб лепш трэніраваць сабаку, трэба чым небудзь зацікавіць яго гаспадара. Для гэтага перыядычна павінны ўтварацца раённыя выстаўкі паляўнічых сабак, палявыя спробы. Егера, якія лепш натрэніравалі сваіх сабак, апроч прэміраваньня на сваіх раённых выстаўках, павінны ўдзельнічаць разам з сваімі сабакамі на ўсебеларускіх выстаўках сабак (мяркуецца адбыцца ў 1931 годзе ў чэрвені месяцы ў Менску). На гэтай выстаўцы будуць адчынены курсы для падрыхтоўкі егероў.

Вось галоўныя задачы на першы час у сабакагадоўлі. Трэба кожнаму паляўнічаму, кожнаму раённаму праўленьню памятаць, што ад колькасьці і якасьці паляўнічых сабак залежыць нарыхтоўка пушніны і мяса дзічы, бо ад добрага сабакі, як усім вядома, залежыць посьпех у паляваньні.

Трэба яшчэ адзначыць, што ў некаторых калгасах, саўгасах і ў асобных паляўнічых ёсьць добрыя паляўнічыя сабакі, але яны па тэй ці іншай прычыне не выкарыстоўваюцца. Раённым т-вам паляўнічых трэба вывучыць гэту справу і дабіцца таго, каб гэтыя сабакі выкарыстоўваліся і на паляваньні і для прыплоду.

Чым хутчэй і лепш раённыя т-вы прымуцца за правядзеньне ў жыцьцё гэтых задач, тым шпарчэй справа сабакагадоўлі пойдзе ўперад.

**Сільнікаў.**



## Сабакагадоўля—справа кожнага паляўнічага.

# Некалькі слоў аб гадоўлі трусоў

Хто будзе супярэчыць таму, што гадоўля трусоў— вельмі добрая справа, але самая лепшая справа пры няумелых да не адносінах можа стаць нікуды ня вартай справай. Нядаўна ў „Ленинградской Правде“ быў зьмешчан артыкул аб адным, калі не памыляюся, ніжагародзкім трусятніку. У гэтым артыкулу апавядаецца, як арганізатары трусятніка, вырашыўшы дапамагчы краіне разьвязаць мясную праблему, арганізавалі трусятнік, накупілі трусоў, набралі штат і потым пачалі „калькуляваць“ і „закулькалявалі“, што адзін кілёграм мяса абыходзіцца гэтаму трусятніку ў 150 рублёў.

Ня трэба ніякіх доказаў, што такое „разьвязаньне“ мясной праблемы ў СССР не патрэбна, шкодна.

У БССР да 1930 году існавала, калі не памыляюся, два трусятнікі: у Сеньніцы - Белсельтрэсту і Курасоўшчыне — Дзяржгандлю (абодвы каля Менску).

З гэтага году ўтвараецца цэлы шэраг новых трусятнікаў: саюзу паляўнічых і яго сыстэмы, Дзяржгандлю, Малжывсаюзу і інш.

Спынімся ў агульных рысах на ўсіх гэтых трусятніках. Здавалася-б, што „старыя“ трусятнікі павінны былі дапамагчы „навічкам“, шляхам азнаямленьня іх з сыстэмай вядзеньня спраў у сябе; з іх калькуляцыяй, балянсамі і г. д. Як бы ня так (!?).

Тав. Галубчык добры спэц гадоўлі трусоў, загадчык трусятніка ў Сеньніцы выпускае кнігу, і ў гэтай кнізе ўмысьля зьмяншае кошт фуражу для трусоў і павышае кошт на прадукцыю трусятніку. Ад такой матэматыкі малюнак атрымліваецца на карысьць той сыстэмы, якая існуе ў Сеньніцкім трусятніку. Па мойму, трэба было-б абавязкова зьмясьціць у гэтай кніжцы балянс трусятніку, якім кіруе Галубчык і, апроч таго, падаць у ёй дзьве калькуляцыі: адну для племянных трусоў, а другую для простых.

Каб так было зроблена, тады-б асобы, якія ўзяліся за гадоўлю трусоў зрабілі-б вывады і ведалі-б, якіх трусоў карысьней гадаваць, як іх гадаваць і што з гэтага можа атрымацца. Бяз гэтага трусятнікі працуюць у сьляпую і я не сумняваюся, што ў большасьці гэтых трусятнікаў кілёграм мяса абыходзіцца калі ня ў 150 руб., дык, ва ўсякім разе, у 25, а гэта ўсё роўна злачынства.

У былой Віцебскай акрузе Дзяржгандаль, Малжывсаюз і інш. прыступілі да арганізацыі трусятнікаў, сталі скупляць трусоў мясцовых парод (бо племяннога матэрыялу няма) нагналі цану да 15 рублёў за мясцовага труса; знайшлі спэцаў, якім думаюць плаціць па 120 рублёў у месяц, будуюць клеткі па апошняму слову тэхнікі, у той час, калі цяжка набыць матэрыял для гэтых клетак і, урэшце, прыходзіцца працаваць без племяннога матэрыялу.

„Але, „чем кумушек считать трудиться, не лучше ли на себя оборотиться?“.

У маім веданьні знаходзіцца трусятнік *). Па загаду „начальства“ я пачаў арганізоўваць яго ў пачатку чэрвеня г. г. Уперад за ўсё мне было сказана, што кроўны матэрыял будзе прывезен з ліку імпартнага. Трусятнік і клеткі трэба будаваць па апошняму слову тэхнікі. Я супярэчыў, даводзячы, што трэба раней выкарыстаць тыя пабудовы, якія у нас ёсьць, але мяне не паслухалі.

Трусоў племянных ня прывезьлі і прышлося купляць на месцы. Добра, што хоць гэтыя мэтысы абышліся не даражэй за 5 рублёў. Аднак, клеткі прышлося будаваць па апошняму слову тэхнікі. Праца будаўніцтва цягнецца доўга і ўдаражаецца за адсутнасьцю матэрыялу (сеткі, цьвікоў і г. д.). На сёнешні дзень мы маем адзін, амаль скончаны трусятнік, які будзе ўмяшчаць 50 клетак і абыдзецца каля 1.200 рублёў і 150 клетак па 12 рублёў за клетку. Пачата пабудова другога трусятніка для 100—120 клетак, які абыдзецца каля 3.000 рублёў і 239 штук трусоў, з іх 175 самак і 64 самцы.

Усе трусы, за выключэньнем 11 племянных самцоў,—выродкі парод. З гэтых 239 трусоў куплена на месцы 147, а апошнія высланы з Менску, пры чым з гэтых высланых—50 трусоў маладняку нядаўна народжаных, якія ў большасьці загінулі ў дарозе. На гэтыя 239 трусоў, пры чым у верасьні прысылаецца яшчэ 50 з купленых тут, адна штатная адзінка з акладам пэнсіі ў 75 руб. у месяц плюс кватэра. Апроч таго, прыходзіцца для работы ў трусятніку наймаць часовага чалавека. Пастараемся зараз зрабіць нешта прыблізнае да калькуляцыі па гэтаму трусятніку. За аснову возьмем адну клетку.

І так, клетка каштуе 12 руб., самка ў ёй 5 руб., трусятнік на 150 клетак 4.000 руб., загадчык трусятніка 75 руб. у месяц, адзін рабочы на 100 клетак павінен атрымаць 45 руб. у месяц. Авёс па лімітных цэнах каштуе 7 кап., караньплоды—3 кап., сена—3 кап. за кілё. Клетка больш трох год служыць ня можа. Зараз вылічым, ува што нам абыходзіцца ўтрыманьне аднэй клеткі ў год і атрымаем (выдаткі па памяшканьню будзем браць амортызацыю 100 проц. у год з 4000 на 150 клетак), а загадчыка трусятніку падзелім на 300 клетак—12 р. 85 к. у год.

Дадамо да гэтага вэтэрынарны нагляд, узносы ў саюз, страхкасу, непрадугледжаныя выдаткі і каштоўнасьць утрыманьня ў клетцы самкі, якая (клетка) больш трох год не адслужыць, і мы атрымаем, што каштоўнасьць аднэй клеткі ў год нам абыдзецца ня менш 34 руб. Атрымаем-жа мы ў год ад аднэй клеткі пры спрыяючых умовах 15 трусянят, ад якіх атрымаем 15 сурак па 1 руб. за штуку—15 руб., 30 кілё мяса па 50 кап. за кілё —15 руб., а ўсяго 30 руб. і будзем мець страт па



Трус у клетцы.

*) Трусятнік саюзу паляўнічых у Добрамысьлі.



Клетачнае ўтрыманьне трусоў.

4 рублі на кожнай клетцы *). Пры наяўнасьці ў трусятніку 300 клетак—зараз ёсьць 150-200 клетак—страты вырастуць прыблізна на 45 проц. Калі мы павялічым трусятнік да 1000 клетак—мы будзем мець каля 5 руб. чыстага прыбытку ад кожнай клеткі ў год.

Зусім іншая справа, калі мы будзем гадаваць племянны матэрыял. У гэтым выпадку, пакуль рынак насыціцца племянным матэрыялам, мы будзем мець кожны год рублёў 10 прыбытку ад кожнай клеткі.

Я ня буду тут казаць аб стыхійных зьявішчах, якія могуць здарыцца ў трусятніку. Могуць быць занесены ў трусятнік эпідэміі, як гэта здарылася, калі ў трусятнік мне прыслалі з Менску партыю трусоў і яны аказаліся ўсе заражанымі насмаркам і зараз дохнуць і пагражаюць заразіць іншых. Аднак, усё гэта пры арганізацыі трусятнікаў прымаць пад увагу трэба.

Усё вышэйзложанае прыводзіць нас да двух вывадаў. Першае—гэта тое, што савецкая грамадзкасьць думала паставіць пытаньне (праз РСІ, калі самі гаспадары тоўстаскурыя) аб тым, каб у спэцыяльных выданьнях друкаваліся шматгадовыя афіцыйныя справаздачы ўсіх трусятнікаў і наогул гадавальнікаў зьвяроў. Другое—гэта тое, што мы павінны перш-на-перш зьмяніць сыстэму нашае зьверагадоўлі. Мы хапаемся бяз крытычнай праверкі за ўсё перанесенае з-за мяжы „спэцамі“, у тым ліку і за ўдасканаленыя клеткі для трусоў і зусім ня лічымся з старымі, выпрабаванымі спосабамі разьвядзеньня трусоў, з якіх, напрыклад, гарэмны спосаб масавага разьвядзеньня, якім шырока карыстаюцца ў той-жа Германіі, ЗШПА і іншых краінах.

Як практычны вывад, я ўношу прапанову разводзіць у дарагіх клетках толькі дарагі племянны матэрыял, а трусоў танных гадаваць гарэмным спосабам. Пры чым, там, дзе мяркуецца гадаваць трусоў у вялікай колькасьці, рабіць гарэмы вялікія па плошчы ад 3 да 25 га і ня менш 1 га. Гарэмны спосаб, вядома, мае шмат недахопаў супроць клетачнага, але мае і адну вельмі важную перавагу—гэта таннасьць.

*) Рэдакцыя ня можа згадзіцца з т. Первабытным у гэтай частцы артыкулу па тэй прычыне, што ня верна зроблен разрахунак.

Што-ж датычыцца клетачнага разьвядзеньня, то нам неабходна прыдумаць больш танную клетку, а гэта магчыма будзе зрабіць, абвясьціўшы конкурс на паданьне мадэляй клетак і выбраць лепшую і найбольш танную. Дапасоўваемы да сучаснага моманту клеткі і нязручныя, і дарагія.

Пытаньне аб спэцыяльных трусятніках, па мойму, павінна зусім адпасьці і вось чаму. Трус стужы не баіцца, і клеткі могуць утрымлівацца ўвесь год на дварэ. Калі ўжо ёсьць неабходнасьць трымаць трусоў у памяшканьні, тады для гэтай мэты трэба выкарыстаць тыя памяшканьні, якія ёсьць, ці якія танна можна пабудаваць. Апроч таго, неабходнасьць будаваць трусятнікі да сонца, г. зн., каб сонца абавязкова залівала ўсё памяшканьне, па мойму, павінна адпасьці. Перш-на-перш гэта робіцца з тэй мэтай, каб да трусоў пападалі лекавыя праменьні сонца.

Але-ж нам вядома, што шкло ўсмоктвае ультрафіялетавыя праменьні і ад праменьняў сонца ніякай карысьці няма.

Калі ўжо і будаваць трусятнік да сонца, дык трэба ўстаўляць у вокны такое шкло, якое прапускае ультра-фіялетавыя праменьні. Такім чынам, мы павінны прызнаць, што ўсякае памяшканьне для ўтрыманьня трусоў узімку прыгодна, абы яно было сухое і няма неабходнасьці будаваць спэцыяльныя трусятнікі, а ўлетку трусы могуць утрымлівацца пад навесам.

**Ч. Первабытны.**



...Глядзі, каб ніхто не турбаваў хворых трусоў!
(Загадчык Бешанковіцкага трусятніка і яго сабака).

# ПРЫРОДА І АХОВА

## Запаведнік „Кедравая падзь“

Узьнікшы па ініцыятыве былога прыморскага лясного аддзелу, запаведнік быў зацьверджан, як такі пастановай Далёка-Усходняй Экаиомнарады ў 1924 г., пры чым пад запаведнік была вылучана даўшая запаведніку назву гаспадарчая частка Славянскага лясьніцтва „Кедравая падзь“, якая найбольш захавалася ад лесаэксплёатацыі і знаходзіцца ў Пасьвецкім раёне Уладзівастоцкай акругі, недалёка ад заходняга пабярэжжа Амурскай затокі.

Асяродкам запаведніка зьяўляецца сыстэма горнай рэчкі Кедравай, якая цягнецца на 12 клм. з захаду на ўсход. Пры агульным працягненьні запаведніка, які раўняецца 16 клм. пры сярэдняй яго шырыні 8 клм., 45 клм. пэрымэтру знадворных меж і 90 кв. клм. агульнай плошчы — запаведнік „Кедравая падзь“ з усходу замкнуты балоцістымі сенажацямі пабярэжжа Амурскай затокі, з захаду паштовым шляхам с. Барабашаў. Нарва — с. Славянска, з поўначы р. Мангучай і поўдня — р. Сідзімы, даліны якіх густа заселены пераважна карэйцамі.

Лесанасаджэньні запаведніка, заключаючы ў сябе ўсіх прадстаўнікоў флёры Паўднёва-Усурыйскага краю, вельмі рознаколерны па свайму відавому складу. У лесанасаджэньнях паўднёвых горных схілаў пераважнай пародай зьяўляецца дуб з падлескам лешчыны, леспедзіцы ці вінаграду і травяністым пакровам розных сьветалюбівых расьлін з сямейства бабовых. Лесанасаджэньні паўночных горных схілаў вельмі разнастойны па свайму відавому складу і вылучыць якую небудзь тыпічную групу вельмі цяжка. Тут расьце дуб, розныя віды клёну і бярозы, акат, ясень, аралія, бархат, вяз, дліморфант, ціс, дзікая ябланка, груша і чарэшня. Часта сустракаюцца плошчы з перавагай грапа і ліпы. Лесанасаджэньні паўночных горных схілаў характарызуюцца прымесьсю хвойных: елкі, кедра і піхты, якія мясцамі становяцца пераважным да 80 проц. лесанасаджэньнем. Падлесак складаецца з нястраўнай жымаласьці і, часткай, бэзу, ліяны — вінаград, сплятаючы дрэвы ў непраходныя зарасьлі.

Лесанасаджэньні ў лагчыне каля р. Кедравай складаюцца з альхі, талаў, бэзу, чаромухі, бархата топаля, ясеня, манджурскага арэха і розных відаў клёну і бярозы. Падлесак рознастойны: жымаласьць, крушына, бузіна. На камяністых мясцох — зарасьлі таволгі рабіналістай. Травяністы пакроў — мацікавыя, кіслыя злакі і магутныя зарасьлі папараці.

Лесанасаджэньні заходніх горных схілаў блізкія па свайму складу да лесанасаджэньняў паўночных схілаў, усходнія — да лесанасаджэньняў паўднёвых схілаў.

Ва ўсіх лесанасаджэньнях сустракаюцца адзіночна: некалькі відаў баяркі, дзікая вішня, жасьмін, барбарыс; на сырых мясцох—з падростам ясеня і аралії—лімоньнік.

Прадстаўнікі фауны запаведнікаў зьяўляюцца: галоўны аб'ект аховы і вывучэньня—плямісты алень, дзікая каза, кабарга, кабан, заяц-бяляк, розныя дробныя грызуны; барсук, крот; драпежнікі: барс, мядзьведзь, шэры воўк, звычайны ліс, непальская куніца, енатавідны сабака, амурскі кот і каланок.

З пярнатых у запаведніку жывуць арлы: белахвост, белаплечы, халзан і інш.; каршуны, совы, філін-пугач, воран, пяць відаў варон, дзятлы, фазан, рабчык і рознастойныя віды сьпяваючых птах. З пралётных у запаведніку гнязьдзіцца слонка, розныя віды качак і цапель. З прасмыкаючыхся плодзяцца два віды шчытамордніка і тры віды палазоў, з якіх зьвяртае на сябе ўвагу сваёй велічынёй (да двох мэтраў даўжыні) полаз шрэнка.

З амфібій—некалькі відаў лягушак і трытон звычайны. Багаты мір і насечковых. У рэчцы Кедравай і ўпадаючай у яе крыніцах водзіцца тры віды фарэлі: у рэчку Кедравую заходзіць для нерасту лососі—гарбуша і сіма, але колькі-небудзь важнага рыбаразьвядзеньня ў р. Кедравая няма, у выніку поўнага паяданьня фарэльлю выкінутай ікры.

Вынікі пяцігадовай аховы запаведніка ад усякіх нарушэньняў і лясных пажараў адбіліся на расьлінным і жывёлавым царстве. Марудна, але верна ідзе аднаўленьне вырубленых у мінулыя гады лесанасаджэньняў; былыя лесавозныя дарогі зусім зарасьлі пабегамі дрэў лісьцьвяных парод, часткай жа зрабіліся чуць бачнымі, цяжка прахадзімымі сьцежкамі, прабіваючымі вартаўнікамі запаведніка. Значна голыя раней плошчы пакрыліся пабегамі лісьцьвяных парод; на паўночных голых схілах ня рэдкі таксама плошчы з пабегамі хвойных парод дрэў; буйное разьвіцьцё хмызьняковых парод і ліан зрабіла запаведнік у шмат яго частках амаль непраходным.

Адзіночныя спробы браканьерства, якія былі ў пачатку ўстанаўленьня запаведніка, ліквідаваліся: злосныя браканьеры, прыцягваемыя ў запаведнік каштоўнасьцю пантаў, плямістага аленя, якія каштуюць на рынку ў два разы даражэй ізюбравых пантаў,—рана ці позна былі адкрыты і браканьеры прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці. У парадку аднаўленьня парушанай аховы запаведніка роўнавагі прыроды такія драпежнікі, як барс, воўк, непальская куніца і арлы пастаўлены па-зазаконам і належаць адстрэлу на працягу ўсяго году.

Увесь зьвер, які ахоўваецца ў запаведніку, зразумеў тую небясьпечнасьць ад чалавека, якую ён знаходзіць на тэрыторыі запаведніка, у выніку чаго апошні стаў напаўняцца зьвярмі з ваколіц запаведніка. Бывалі выпадкі, калі плямісты алень знаходзіў небясьпеку ад драпежніка ў чалавека, каля хаты вартаўнікоў. У пачатку асеньня-зімняга паляўнічага сэзону пры першых стрэлах каля запаведніку ўвесь зьвер, пачынаючы ад выходзячага з-за меж запаведніка ў часы гону плямістага аленя, кабана, і канчаючы фазанам, перамяшчаюцца ў запаведнік.

Сутнасьць навукова-дасьледчых работ заключаецца ў фіксаваньні ўсіх зьявішчаў жыцьця запаведніка, у выяўленьні прычын і сьледзтваў тых ці іншых зьявішчаў у жывёлавым ці расьлінным жыцьці, у

зборы і прэпараваньні ўсіх, заслугоўваючых таго матэрыялаў. У галоўным-жа фокусе гэтых работ згуртавалася вывучэньне складаемых біолёгіі плямістага аленя і асабліва дакладнае ўстанаўленьне відавога складу расьлін, якія зьяўляюцца асноўным, а потым другарадным кормам.

У парадку выкананьня гэтых работ вытвараўся падлік аленя, які знаходзіцца ў запаведніку. Былі ўстаноўлены пэрыяды часу ліняк, пачатак і канец гону, ацёлу ланак, скідваньне быкамі старых сухіх рагоў і пасьпяваньне пантаў, час жыровак і г. д.

Падлік колькасьці ў запаведніку аленя вытвараўся: 1) па ўстанаўленьню на кармушках процантнай адносіны быкоў, ланак і цялят; 2) па колькасьці ў час гону быкоў і 3) па сьлядох, пасьля кожнага выпаўшага сьнегу.

Гэты падлік ніколі ня мог быць нават прыблізна дакладным з прычыны немагчымасьці штату запаведніка, які складаецца з 6 чалавек егероў, абхапіць падлікам адначасна 99 кв. клм. вельмі перасечанай плошчы запаведніка; па тэй-жа прычыне, а таксама ў выніку адсутнасьці ў запаведніку просек ня мог быць дапасаваны прасьцейшы і вельмі дакладны спосаб падліку колькасьці аленяў шляхам перагону праз просекі з аднэй часткі запаведніка ў другую, з падлікам іх на просеках.

Да 1 студзеня 1928 г. агульная колькасьць аленяў на абхопленых падлікам плошчах запаведніку, якія складаюць ня больш 0,3—0,4 усёй плошчы запаведніка, было вызначана ў 200 галоў, з якіх 25 проц. прыходзілася на быкоў.

Параўнаўча з лікам аленя, падлічана ў 1925 годзе ў колькасьці 90 галоў, да 1 студзеня 1929 году атрымалася павялічэньне стада аленя ў запаведніку на 120 проц.

Да 1 студзаня 1929 году падлік аленяў утворан быць ня мог, з прычыны разгона шэрым ваўком, які зьявіўся ў Посьецкім раёне. Гэтым ваўком у запаведніку было зарэзана да 30 галоў ланак. Неабходна памянуць, што пры правядзеньні барацьбы з ваўкамі адзіным магчымым у запаведніку спосабам было атручаньне прыманак, ад якіх загінула 7 штук толькі знойдзеных у запаведніку атручаных ваўкоў,—гэта барацьба з ваўкамі ў запаведніку, пакульскі не вялася ў маштабе ўсяго Пасьецкага раёну,—зьявілася недастатковай.

Апроч гэтага году, драпежнікі колькі-небудзь бачнага ўплыву на колькасьць плямістага аленя ў запаведніку з боку яго паменшаньня не зрабілі.

У парадку ўстанаўленьня відаў асноўных кармовых расьлін драўняныя пароды былі выяўлены в дастатковай поўнасьцю; склад травяністых кармоў быў выяўлен толькі часткова.

З драўляных кармовых расьлін на першым месцы стаіць дуб; спажываемы ў яду аленем быком амаль круглы год, асабліва-ж быкоў у пэрыяд пасьпяваньня пантаў, ланкай—у пэрыяд цажарнасьці. Затым ідуць берасклет, аралія, акат, бархат, клёны, ясень, лешчына, бяроза, ліпа, омела (ёсьць на паваленых ветрам дрэвах), ліана і розныя віды salix. З другарадных кармоў такімі аленю служаць амаль усе драўляныя і хмызьняковыя пароды, за выключэньнем розных відаў жымаласьці, якую алень бярэ рэдка, як-бы ненарокам. Выявілася, што леспедзіцу, якая лічылася адным з асноўных кармоў, ёсьць вельм рэдка ў процівалегласьць дзікай казе.

Выяўленыя асноўныя кармы з травяністых расьлін складаюцца з сямейства бабовых. Алень вельмі ахвотна есьць Cacalia hostata і plestran hus exscisus. Вясной пры першым зьяўленьні кіслых злакаў алень есьць іх да таго часу, пакуль яны яшчэ маладыя.

Усе работы па запаведніку як адміністрацыйныя, па ахове, так і навуковага характару затрымліваюцца яго нядобраналаджанасьцю. Шмат егероў з шасьці сямейных чалавек прымушаны зьмяшчацца ў 4 аднажылых вартаўніцкіх дамох, якія знаходзяцца на тэрыторыі запаведнікаў. Гэта значыць—у лесе на адлегласьці ад 12 да 25 кілёмэтраў ад базы, якой зьяўляецца сяло Барабаш і з якой няма належнай коннай сувязі, хаця-б для дастаўкі на кардоны прадуктаў першай жыцьцёвай неабходнасьці. Няма памяшканьня для загадчыка запаведніка, які па сваіх службовых абавязках павінен жыць у самым запаведніку; запаведнік ня мае адпаведнага памяшканьня для лябораторыі, яе неабходна абсталяваць; няма ня толькі ніякай бібліотэкі, але і самых неабходных літаратурных навуковых падручнікаў. Да сучаснага моманту гадавы бюджэт запаведніка не перавышаў 9 тысяч 200 рублёў, адпушчаных у 1928-29 бюджэтным годзе. Пры чым з гэтай сумы 5 тысяч 240 р. складалі зарплату і фуражныя працаўнікоў запаведніка, 200 рублёў—гаспадарчыя і паштовыя выдаткі, 3 тысячы рублёў—пабудова і рамонт жылых пабудоў, 107 рублёў—дарожныя выдаткі і апошнія 500—апэрацыйныя выдаткі. Звычайны-жа да 1928-29 году галовы бюджэт запаведніка не перавышаў 6 тысяч рублёў, г. зн. складаўся амаль з аднэй толькі зарплаты працаўнікам запаведніка. У такім дрэнным становішчы запаведнік „Кедравая падзь“ знаходзіўся на працягу 5 год.

Калі прыняць пад увагу толькі адно становішча зачыненых аленьніх гаспадарак, якія знаходзяцца ў веданьні дзяржаўных устаноў, і стаяць перад фактам выміраньня і гібелі ў іх плямістага аленя, якія залежаць галоўным чынам ад недахопу якаснага складу кармоў і адсутнасьці прыліву сьвежай крыві, дык запаведнік „Кедравая падзь“ можа пры адпаведнай пастаноўцы ў ім работы даць разьвязаньне гэтай істотнай задачы. Наогул-жа запаведнік „Кедравая падзь“ ня можа далей заставацца „ахоўваемым помнікам прыроды“ і павінен быць пастаўлен на вышыню навуковай установы. Калі Далькрайземкіраўніцтва ня ў сілах гэтага зрабіць, яму неабходна запаведнік перадаць у веданьне, напрыклад Галоўнавукі.

**Кузьняцоў.**

(З часопісі „Ох. и Рыб. Сиб.“)

**Ад рэдакцыі:** Зьмяшчаючы артыкул аб запаведніку „Кедравая падзь“, які знаходзіцца на Дальнім Усходзе, рэдакцыя „П. Б.“ спадзяецца, што працаўнікі, асабліва навуковыя працаўнікі Беларускага дзяржаўнага запаведніка адгукнуцца на гэты артыкул і дадуць да наступнага нумару нашае часопісі, які выйдзе ў сьнежні нарыс, як ідзе работа ў нашым, беларускім бабровым запаведніку, як пастаўлена навуковая праца ў запаведніку, ці ўтворан падлік баброў і іншых больш буйных зьвяроў, які іх прыплод за год і пэрспэктывы запаведніка.

# Паляваньне на ліса з ганчакамі

*(Працяг)*

З паратымі ганчакамі паляваньне на ліса вярней і прасьцей: ліс, якога шпарка гоняць, ня можа быць так асьцярожны, а таму ён параўнаўча рэдка зьяўляецца на віду ў паляўнічага не на пэўным лазе; паратыя ганчакі верна паказваюць яго ход і паляўнічы напэўна чакае зьвера з пад іх, ведаючы, што ён ня мог значна ўзяць перада, асабліва на другім ці трэцім коле, калі першы страх ліса прайшоў. Апроч таго, у выпадку няўдалага стрэлу гон ня спыняецца, а з пешымі ганчакамі напалоханы ліс пасьпее ўцячы за кілёмэтр, а то і куды больш уперад, перш чым сабакі дабяруцца да месца стрэла.

Незалежна ад гэтага паляўнічаць на ліса можна з паратымі або з пешымі ганчакамі. Гэта залежыць ад мясцовасьці і ад прывычкі самога паляўнічага, астатнія якасьці ганчакоў, неабходныя для правільнага паляваньня застаюцца заўсёды адны і тыя ж. Але для сапраўднага паляваньня на ліса мала таго, што ганчакі гоняць ліса, трэба яшчэ, каб яны больш любілі ганяць ліса, чым зайца і, каб паляўнічы быў упэўнены ў тым, што ганчакі ня кінуць ліса і ня пойдуць за зайцам, на сьлед якога яны нападуць.

Колькасьць ганчакоў для паляваньня на ліса залежыць ад якасьці іх гону, але агульнае правіла— чым менш іх, тым лепш. Самае дабычлівае паляваньне бывае з адным добрым ганчаком, але такіх сабак бывае вельмі мала. Ганчак, з якім магчыма адзіночнае паляваньне, павінен быць у вышэйшай ступені чуцьлівым да ліса, мець гучны голас, але ня высокі, лепш ня часты, а мерна-рэдкі. Ён павінен быць разумным і прывычным да хады паляўнічага так, каб яму ня трэба было-б падаваць голаса паляўнічаму; ён сам павінен прыстасоўваць свой пошук да напрамку паляўнічага, які ён ведае, перабягаючы сьлед паляўнічага.

Усе добрыя ганчакі ўладаюць шырокім пошукам коламі, але адзіночны ганчак павінен шукаць на асабліва вялікіх колах, прыкладна каля кілёмэтра. Большай часткай прыходзіцца паляўнічаць з некалькімі ганчакамі, але ні ў якім разе ня трэба больш пяці-шасьці змычкоў. У такой стаі склад сабак павінен быць найлепшым; калі хоць адзін ганчак нават ледзь „пярэчыць“, г. зн. ідзе ня разам, а трохі бокам, калі ганчакі валяцца да гону з голасу, ці ня ўсе разам—паляваньне наўрад-ці будзе ўдачлівым. У стаі ганчакам работаць, адносна прыгожасьці гону, лягчэй на тэй падставе, што недахоп ці промах аднаго ганчака папаўняецца або выпраўляецца іншым; гон ідзе раўней, менш бывае сколу і перамоўчак, урэшце некалькі ганчакоў, шукаючых на шырокіх колах, хутчэй „нацакаюць“ на сьвежы сьлед або паветру на залёгшага ліса. Апроч таго, стаяй усе ганчакі гоняць карацей і мацней, што робіць гэтае цікавае паляваньне яшчэ больш цікавым.

Па лісу ўсякія ганчакі, калі толькі гоняць, дык гоняць абавязкова стойней, чым па зайцу; з гэтае прычыны для ганчакоў на паляваньні за лісам надвор'е мае меншае значэньне, чым за зайцам. Вядома, чым лепш надвор'е тым лепш і за лісам ідуць ганчакі, але і ў такое надвор'е, калі гон па зайцу зусім ня клеіцца, ліса яны гоняць настолькі здавальняючы, што паляваньне становіцца магчымым. У вельмі сырое і нават мокрае надвор'е ці ў моцны і сухі мароз, адны і тыя ж ганчакі ня трымаюць зайца і гоняць добра ліса. Тое-ж самае здараецца і тады, калі сьнег месцамі сагнала. Тады толькі найлепшыя ганчакі гоняць добра зайца, а ліса трымаюць і пасрэдныя.

Аднак надвор'е мае вялікае значэньне для паляўнічага. Туман—самае кепскае для паляваньне надвор'е, г. зн. паляўнічы ня можа разьлічваць на колькі-небудзь правільны ход ліса. Дрэнна, калі і вельмі моцны вецер, які зносіць галасы ганчакоў, так што паляўнічы або зусім іх ня чуе, або часта траціць з слыху напрамак гону, а пры такіх умовах нельга верна выбраць засаду. У моцны мароз паляўнічаць таксама дрэнна, асабліва з пешымі ганчакамі, бо ліс ходзіць на вельмі вялікіх колах.

Паляваньне з ганчакамі за лісам у агульных рысах падобна на паляваньне за зайцам, але тут кожны лішні чалавек, у асаблівасьці, калі ён звыш таго мала вопытны, бязумоўна бунтуе. Кожны лішні крок, зроблены паляўнічым, можа адразу сапсаваць усю справу, бо ліс, нават наткнуўшыся на яго сьлед, абавязкова мяняе напрамак і ні ў якім разе ня пройдзе там, дзе хоць раз пачуў небясьпеку. З гэтае прычыны раз занятую засаду, калі здарыцца, што яна выбрана няўдала, трэба мяняць тады, калі гон значна аддаліцца—і бяз шуму, лепш за ўсё па моху, не сьпяшаючыся і па магчымасьці не перасякаць сьледа ліса. Калі лаз надзейны і ліс толькі доўга не бяжыць на яго, дык заўсёды карысьней пачакаць зьвера і не мяняць месца. Займаючы засаду, неабходна прымаць пад увагу напрамак ветра і заўсёды станавіцца так, каб ён не наносіў пах паляўнічага на мяркуемы лаз або сустрэчны шлях ліса. Трэба абавязкова хавацца за куст, дрэва або камень. галоўнае—неабходна хавацца да грудзей, бо ліс, як і воўк, гл дзяць галоўным чынам па нізу. Лепш станавіцца на краю леса або на прагаліне і ня выбіраць такія месцы зарасьнікаў, дзе ліса можна праваронiць за некалькі крокаў. Але, калі ў паляўнічага добра развіты слых, дык ён можа пачуць яго бег, асабліва позна ўвосень па апаўшых лістох.

Самае паляваньне ўчыняецца наступным чынам: раніцай, гадзіны за дзьве пасьля ўсходу сонца, калі раса абсохне або сыйдзе імжа, паляўнічы з ганчакамі на павадку ідзе на тое месца, дзе ёсьць лісы, ціха, бяз шуму і крыку пускае сабак і рухаецца ўздоўж лесу. Прывычныя ганчакі бягуць звычайна паўзлесу або палянкамі, на якіх мышкуюць лісы,—у гэты час раніцы яны толькі вяртаюцца на дзень у лес, а то яшчэ не вярнуліся ў яго, і ганчакі хутка, пачуўшы яго сьлед, пачынаюць гнаць „на вока“. У зарасьніках ганчакі дабіраюцца за лісам ня так хутка, як, напрыклад, за ваўком, у месцы, ня вельмі заросшым, ліс менш блытае, ідзе проста і ганчак на адным месцы доўга не затрымліваецца. За лісам у лесе ідзе роўны, статны гон і ганчакі амаль ніколі ня скалываюцца. У балоце-ж і чаротах няма такой правільнасьці гону і бываюць перамычкі, а таксама перахват гону ганчакамі, якія ідуць бокам, на якіх і зварачвае ліс.

Першае кола ліс задае звычайна паўзлесу, а таму з першага гону паляўнічы становіцца каля лесу і зараз-жа страляе. Усьлед за колам паўз лесу, ліс пачынае рабіць колы або ў лесе, або выходзіць у поле і прабіраецца лажбінамі і між кустоў; часьцяком ён ходзіць пад ганчакамі з аднаго ляска ў другі і гэты апошні ход бывае самы правільны, бо тады ён прабіраецца з ляску ў лясок адныmі і тымі ж месцамі.

Нярэдка здараецца, што ганчакі натыкаюцца на зайца і гоняць яго, але гэта не бяда: ліс мала баіцца гону, калі не яго ганчакі гоняць, і ўпарта трымаецца сваёй акругі, ды нярэдка і на адным месцы, толькі старонячыся ад ганчакоў і калі ганчакі добрыя, дык яны ўсё-ж пакідаюць зайца і натыкаюцца на ліса.

Здараецца часта, што аднаго ліса ганчакі гоняць, а іншыя, таксама „мацерыя", ходзяць бокам, падпарадкаваючыся да ходу гоннай і ня ўходзяць адсюль. Калі ня хочуць, каб ганчакі маглі трапіць на зайца раней ліса або, каб яны не пагналі далёка ад паляўнічага, іх тады не „размыкаюць", падглядаюць ліса і насажваюць адразу на гонны сьлед. Для гэтага выходзяць на паляваньне з сьветам; адзін паляўнічы ціха пасоўваецца ўздоўж лесу і асьцярожна выглядае, а другі вядзе ганчакоў, адстаючы ад першага на сто крокаў. Вядома, такія пошукі „на вока" магчымы толькі там, дзе лісаў вельмі шмат.

Вернай адзнакай вывадку лісаў у якім-небудзь месцы, калі невядомы норы служыць адсутнасьць якой-небудзь маладой дзічы як зайцоў, так і птах; тутака-ж звычайна бывае шмат сарок, неадменных спадарожніц ліса. Сарокі сваім стракатаньнем нават паказваюць тое месца, дзе знаходзіцца ліс у гэты момант. Калі норы вядомы, дык гэта добрае месца для засады на маладых лісаў: часьцей за ўсё, робячы колы над ганчакамі, яны ходзяць праз норы і, змучаныя доўгім гонам, нярэдка ўходзяць у норы. Гэта часьцей за ўсё бывае з восені, калі вывадак трымаецца яшчэ недалёка ад нор. Мацерыя лісы месцамі так часта ўходзяць у норы, што ў некаторых паляўнічых прынята за правіла перш, чым пускаць ганчакоў, закладаць норы паленьнем, суччом і г. д.

Ліс ня любіць хадзіць па заросшых месцах, па палянах, вельмі рэдка пойдзе па дарозе, але ў балоце паляўнічаму ўсё-ж прыходзіцца станавіцца на выспачках, палянках, сьцежках, бо ў іншых месцах яго і ня ўбачыш. Станавіцца на такіх месцах трэба бліжэй да краю, чым да сярэдзіны выспы ці паляны. Калі ў вялікім лесе ёсьць перасякаючая яго шырокая паляна, дык трэба станавіцца на ёй у самым вузкім месцы. Надзейны лаз на такой паляне будзе ў тым месцы, дзе адзін зарасьнік сыходзіцца з другім. Калі лісу прыходзіцца прайсьці чыстую мясьціну, ён стараецца, па магчымасьці аддаліць гэты момант і з гэтае прычыны абыходзіць па зарасьніку. Выхадныя лазы з выспы знаходзяцца, вядома, у тых месцах, дзе да яго бліжэй другая выспа.

У лесе, калі ён знаходзіцца на роўным месцы, лаз—край лесу, дзе выспа ўкліняецца ў поле. Ліс зьяўляецца на краю леса або на першым полі, або тады, калі хоча пакінуць лес. Наогул выходныя лазы заўсёды бываюць лагчынамі, а ня ўзгоркамі, але, калі выспа ўпіраецца ў поле лясістым курганом, дык ліс ідзе гарой, аднак, не па самым грэбню. У балоцістай высьпе ліс ходзіць, дзе сушэй і пераходзіць праз ваду толькі ў крайнім выпадку і тут, аднак, стараецца не памачыць лапак. Калі вада ў балоце і ручаёх замёрзьне, ліс любіць хадзіць па замёрзшых месцах, якія служаць нібы шырокай дарогай ў выспу і праходзіць такімі месцамі з кілёмэтр і больш.

Пры паляваньні на ліса ў лесе ня трэба займаць лаз на сьцежках. Трэба памятаць, што ліс падыходзіць да дарогі асьцярожна і звычайна яе пераскаквае, так што стрэл у такі момант ня з лёгкіх. У лесе, аднак, можна выбраць сабе месца, з якога відаць навокал крокаў на 15—20. Ліс у гушчары менш асьцярожны, ня так аглядаецца, што робіцца наперадзе; падыходзячы да сьцежкі, ён вельмі асьцярожны і можа ўбачыць паляўнічага, нават тады, калі ён добра схаваўся.

Па белай сьцежцы, у пачатку зімы, пры няглыбокай парошы,—ліс жыве ў лесе і ходзіць тымі самымі месцамі, і лазы яго тыя-ж, што і па чорнай сьцежцы. Першае кола ліс, аднак, робіць у гэтую пару ня так ужо блізка да краю леса, мусіць таму, што па краёх сьнег глыбей і голы лес дае магчы-



Таксама паляўнічае.

масьць зьверу ўпэўніцца ў небясьпечнасьці выхаду. У пачатку зімы, радзей у сярэдзіне, ліс заўсёды ўходзіць з лесу ў поле і паляваньне на яго з ганчакамі амаль спыняецца, тым больш, што ён у гэты момант вядзе ўпаўне бадзячае жыцьцё. У гэты час яго трэба раней абкласьці, а потым выганяць з выспы пры дапамозе крыкуноў ці пры дапамозе ганчакоў.

Паляваньне па парошы ўчыняецца наступным чынам: знойшоўшы сьвежы сьлед ліса, паляўнічы ідзе гэтым сьледам, трымаючы ганчака на павадку да таго часу, пакуль ён не пачуе і не пачне папіскваць; спусьціўшы сабаку і вызначыўшы напрамак гону, паляўнічы хутка перасоўваецца на месца засады. Звычайна спачатку зімы, калі сьнег няглыбокі, ліс трымаецца раніцай паблізасьці краёў лесу, а таму тут і трэба выбіраць месца засады.

Гэтае паляваньне амаль заўсёды лепш з адным ганчаком і ў адзіночку, бо, як і лішні сабака, так і лішні паляўнічы могуць толькі бунтаваць. Колер адзежы пры паляваньні на ліса павінен адпавядаць тым абставінам, у якіх учыняецца паляваньне: шэры—увосень і сьветла-шэры ці белы—узімку.

Н. М.

# Паляваньне на ваўкоў з ганчакамі

Галоўныя правілы гэтага паляваньня тыя-ж, што і для паляваньня аблавай. Папярэдня падвываюць ваўкоў, гэта значыць вызначаюць месцазнаходжэньне вывадка, калі яно не вядома і, разам з тым, тыя шляхі, якімі старыкі ходзяць на промысел і потым вяртаюцца. Калі ваўкі не напалоханы, дык гэтыя лазы не мяняюцца і знайсьці іх ня цяжка, асабліва па моцнай расе па няскошанай траве, але шукаць іх лепш вярхом на кані, бо калі пяшком пахадзіць па сьцежках ваўкоў, дык яны могуць яго зараз-жа зьмяніць.

Калі лазы добра вядомы, дык шмат паляўнічых ня трэба' а займаюцца толькі тыя мясцы, якімі абавязкова пойдзе зьвер. Паляўнічыя становяцца на мясцы, захоўваючы поўную цішыню і ні ў якім разе не павінны хадзіць на краю леса, каб сваім сьледам не напалохаць зьвера. Куды лепш ісьці на лаз падалей ад краю леса і станавіцца на месца, падыходзячы пад простым кутком. Лепшым лазам трэба лічыць тыя, якія знаходзяцца па ветры з лесу; выключэньне бывае толькі ў тых выпадках, калі зьвер па ветры сайці ня можа, напрыклад, калі там працякае глыбокая рэчка. Там, дзе верных лазоў няма, або яны невядомы, неабходна заўсёды станавіцца так, каб вецер дзьмуў на паляўнічага з лесу,—пажадана каля раўчакоў, або нізін, а таксама ў рэдкіх лясных або зарасьнікавых пераралах у іншыя ляскі. Звычайна становяцца некалькі наводдаль ад краю лесу, абавязкова за якою-небудзь сховай, але так, каб можна было хутчэй агледзіць зьвера і было зручней страляць па ім.



Як раз пад крыло крыжна...

Калі ўсе паляўнічыя на мясцох, заводзяць ганчакоў і кідаюць іх адразу на гняздо або як мага бліжэй да яго.

Ведаць дакладна месца гнязда і кідаць проста на яго сабак, у асаблівасьці неабходна, калі лес вялікі па тэрэторыі, бо ў іншым выпадку бывае, што ваўкі, пачуўшы ганчакоў, падымаюцца і ўсей стаяй выходзяць на аднаго паляўнічага. Апроч таго, пры няўмелым напуску ганчакі могуць прыхваціць замест ваўка па зайцу. Пазьней, калі ваўкі ня трымаюцца гнязда, кідаюць ганчакоў з краю лесу і тут паляўнічыя дзейнічаюць ня разам: адны робяць напуск па ветры, другія—супроць ветру. Калі паляўнічых дастаткова і лазы заняты ўсе, дык пажадана напуск рабіць супроць ветру, бо добрыя ганчакі чуюць ваўкоў вельмі далёка, а, прыхваціўшы іх, не зьвяртаюць ніякай увагі на зайца, але паляўнічых мала і лазы заняты толькі па ветры з лесу, які невялікі і незайчыст, дык лепш кідаць ганчакоў з лесу па ветры і дамагацца, каб яны хутчэй нацякалі на сьвежы сьлед з ваўкоў.

З пачатку восені, калі воўчыя вывадкі яшчэ амаль ня выходзяць з лесу, маладых вельмі цяжка выгнаць на чыстае поле і звычайна пад ганчакамі робяць колы па лесу, выбіраючы для гэтага самыя густыя месцы. Між іншым, калі дазваляе мясцовасьць, а ў лесе ім прыходзіцца вельмі цяжка, дык маладыя стараюцца перавальіцца ў іншы, але не праз пол- ці чысты лог, а кустамі, парубамі, зарослымі нізінамі ціляснымі грывамі. Насупраць старыя, праяркі заўсёды бягуць з лесу вельмі хутка і адразу вырываюцца ў поле. Вельмі рэдка здараецца, што стары пратрымаўся ў лесе больш аднаго кола: звычайна ён або адразу ідзе напрамік, або задае на поўнае кола, каб дабрэцца толькі да ўдалага лазу. Але бывае, калі ганяе маленькая, пешая і дрэнная стая, з доўгімі прамочкамі, а ваўкі сытыя і таму лянівыя, доўга трымаюцца ў лесе. Старыя халастыя ваўкі ніколі не задаюць кола пад ганчакамі, але старыя ад вывадка заўсёды даюць кола з той розьніцай ад маладых, што апошнія робяць колы ў вельмі абмежаваным абшары тады, як старыя, не разьбіраючы ні леса, ні поля, пераважна нават апошнім задаюць вялізарныя колы, ня рэдка ў дваццаць кілёмэтраў, але ўсё-ж абавязкова вяртаюцца да гнязда, абы толькі вытрымалі ганчакі.

Велічыня кола старых не заўсёды аднолькава залежыць ад узросту маладых: чым апошнія маладзей, тым і кола старых пад ганчакамі менш, і, наадварот, чым пазьней восень, чым буйней маладыя, тым—старыя робяць большыя колы.

Але велічыня гэтых колаў таксама шмат залежыць і ад мясцовасьці: у чыстых палёх кола заўсёды больш, у ляснай ці няроўнай—менш. Таму, калі лес вялікі і перасякаецца дарожкамі і палянамі, не мяшае, у асаблівасьці, калі шмат паляўнічых, заняць і ў самым лесе добрыя прабегі, але ў лес можна пасылаць толькі самых надзейных і вопытных людзей, якія-б ня сходзілі з месц і стаялі на іх ціха.

Н. М.

# „Правосудие“ па Асмалоўскаму

— Слухай, Дударкін! Ідзі зараз да Міколкі Крывадуба. Ды стрэльбу вазьмі. Там сход, браканьерскі. Мы хочам арганізаваць „Саюз браканьераў“.

Дударкін выцягнуў рулю стрэльбы з-пад страхі сьвінарніка, ложу ўзяў з-пад вараўні, куркі зачапіў на гэту зборную гармату ў гумне. Адрэзаў ад лапця кусок аборыны і, павесіўшы на яе сваю стрэльбу, накіраваўся ў сяло.

Дударкін быў браканьер, але называў сябе для жартаў „брыканьер“, бо часта прыходзілася ўцякаць з лесу ад паляўнічых з такімі выбрыкамі, што інакш называць яго і нельга было. Дабегшы да хлявоў, руля стрэльбы зараз-жа адымалася і лезла ў страху, ложа ў іншым месцы, куркі ў іншым і ўся стрэльба хутка гінула ў будынках. Тады Дударкін, выскаліўшы белыя, здаровыя зубы, сьмяяўся з паляўнічых:

— Рыбак рыбку пячэ, а паляўнічы лапці пляце...

Паляўнічыя моцна лаяліся і ішлі да хаты.

Зараз Дударкін ішоў па вуліцы з паядынкай за плячыма, а самы заядлы браканьер Сьцёпка Мянтуз ішоў упарадзе і зваў наступных:

— Эй, ты, Бружмель, валіся з стрэльбай на сход, на браканьерскі!

А ты куды ўцякаеш, Бульбянік? Ты хіба ня чуеш, што я кажу Бружмялю?

Браканьеры, усе як адзін, сыпаліся да вараўні Міколы Крывадуба. Сядзелі на мяліньні, галдзелі. Парадку ня было. Слова ўзяў—ня ўзяў, а проста пачаў гаварыць, каб перакрычаць—Сьцёпка Мянтуз.

— Дударкін кажа, Смаляк Яўхім кажа, Калёша кажа...

— Мала чаго кажа старая калёша! Нам нечага яго слухаць. Калі мы яго паслухаем, ды пойдзем біць баброў, загадзя ня ўнесшы штрафу, дык...—перабіў Мянтуза Сымон Макацёр.

Дык тады крычаўскі нарсудзьдзя Асмалоўскі, тады возьме ды паштрафуе нас па 25 рублёў, у той час, калі ён Калатоўкіну Міхасю прыпаяў толькі пяць!—скончыў Мянтуз Сьцёпка.

Выступалі амаль што ўсе. Выказвалася шмат думак. Нават быў зачытан, для большай вернасьці, прыгавор нарсудзьдзі Крычаўскага раёну таварыша Асмалоўскага. (Справа за № 362—1930 г.). Месца, дзе гаворыцца: „Калатоўкіна Міхася аштрафаваць за зьнішчэньне аднаго бабра на 5 рублёў“.

— А можа гэта памылка? крычалі некаторыя.

— А можа ня пяць, а пяцьдзесят рублёў?—гаварылі другія.

Наогул было выказана шмат усякіх думак, але тут выступіў Мянтуз Сьцёпка. Сьцёпка быў жвавы, слізкі (як сапраўдны мянтуз) мужчына і заўсёды выкручваўся з усякага становішча. І от Сьцёпка гаркнуў на ўсю вуліцу:

— Чаго тут грызьціся! Мы-ж можам так зрабіць... Тут усе заціхлі і паглядзелі на Мянтуза.

— Мы можам адсюль зараз пайсьці ў нарсуд да Асмалоўскага і...

Сход панік у грабавой цішыні.

— Унесьці Асмалоўскаму заранеі па 5 рублёў штрафу за кожнага бабра, а хто хоча забіць больш—ящчэ столькі-ж разоў па 5 рублёў. А адтуль мы адразу можам пайсьці да баброў,—скончыў Мянтуз Сьцёпка і засьмяяўся, іграючы сваімі прыгожымі зубамі.

Каля габінэту Асмалоўскага стаяла чарга людзей з стрэльбамі за плячыма. Нейчы „Мурза“, з закручаным у баранак хвастом, нюхаў бот Асмалоўскага і лізаў язы ом толькі што пакладзеную на ім рыб'ю тлустасьць.

— Пайшоў вон, к-а-а-б цябе воўк!—агрызнуўся Асмалоўскі.—Ящчэ бот згрызеш!

Людзі галдзелі ў чарзе, стукалі руляй аб рулю.

— Куды прэшся!—крычаў Мянтуз на нейкага дзядзьку.—Тут вельмі тэрміновая справа—цэльнай арганізацыі да таварыша судзьдзі.

— Ды мне наконт алімэнтаў,—спрабаваў угаварыць дзядзька Мянтуза.

— О, з гэтай справай пачакаеш! Алімэнты не ўцякуць, а бабры...

Судзьдзя выклікаў па сьпісу.

— Мянтуз!

— Ёсьць Мянтуз.

— Бульбянік!

— Ёсьць Бульбянік!

— Салапон!

— Я Салапон.

І так усе члены „саюзу браканьераў“ па парадку прайшлі перад Асмалоўскім. Выскачылі на поле з габінэту нарсудзьдзі і пабеглі ў напрамку лесу. Потым каля рэчкі, дзе жывуць бабры, чуліся стрэлы.

---

— Ты што, з праісподняй вярнуўся?—запытаўся старшыня Магілеўскага акртаварыства паляўнічых Сакалоў у замурзанага, з сінякамі пад вачмі, чалавека, які працаваў вартаўніком у бобровым заказьніку.

— Пэўная праісподняя!—адказаў вартаўнік.—Ты ведаеш, што там робіцца?

— Дзе?

— У заказьніку, у бобровым.

— Ну выкладай!

— Прышоў Сьцёпка Мянтуз з сваёй хэўрай і давай страляць баброў. Ужо некалькі можа забілі. Я да іх. Я пачаў ім тлумачыць, што тут заказьнік на баброў, што баброў нельга страляць, бо іх вельмі мала засталося на сьвеце, што гэтыя стварэньні вельмі каштоўныя, а Мянтуз да мяне—і давай, як таго бабра...

Сакалоў паглядзеў на твар вартаўніка, на якім былі пэўныя адзнакі таго, што адбылося ў бобровым заказьніку.

Вартаўнік гаварыў далей:

— Тычыць мне ў морду нейкай паперкай. Крычаць: „па 5 рублёў заплацілі Асмалоўскаму!“ Я ім кажу, што ня 5 рублёў каштуе дзяржаве кожны бабёр, а яны—што з імі гаварыць...

Сакалоў пачаў гаварыць у тэлефон.

— Тав. Асмалоўскі?

— Так, я, Асмалоўскі.

— Ці ведаеце вы аб пастанове СНК Беларусі ад 19 студзеня 1923 году? Ці ведаеце вы, што дзяржава траціць вялікія сродкі на ўтрыманьне і ахову баброў, якія зьяўляюцца зараз рэдкасьцю? Ці ведаеце вы, што ўрад вельмі зацікаўлены, каб гэтыя зьвяры ня зьнішчаліся, а ўвесь час пладзіліся ўсё болей і болей? А вы, таварыш Асмалоўскі, у гэты час прадаеце іх па 5 рублёў браканьерам Калатоўкіным Міхасям. Гэта справа (справа 1930 году № 362, крычаўскага нарсуду) заслугоўвае ўвагі пракурора! Калі вы будзеце так судзіць, як судзілі Калатоўкіна, дык я б'юся аб заклад, што не застанецца праз адзін тыдзень ніводнага бабра на Беларусі!

Сакалоў павесіў трубку тэлефона і нэрвова хадзіў па пакою. Кусаў ногці на пальцах.

Нарсудзьдзя ўзяў беззаботна кавалак паперы і абцёр бот у тым месцы, дзе лізаў рыб'ю тлустасьць нейчы „Мурза“. Потым паглядзеў на палецмязынец і стаў калупаць ім у носе.

Вартаўнік з паніклай галавой вярнуўся ў заказьнік.

**Мік. Цэлеш.**

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя часопісі „Паляўнічы Беларусі“ просіць пракуратуру БССР тэрмінова зацікавіцца гэтай справай і адмяніць прыгавор крычаўскага нарсудзьдзі.

## У заказьніках пасуць жывёлу

З 15 верасьня па Віцебшчыне былі адчынены заказьнікі для паляваньня: у Сіроцінскім раёне—Курыцынскі Мох, у Сураскім—Іванькаўшчына і ў Віцебскім—Краснадворскі, Хамікоўскі і Глабардзкі Мох.

Вынікі паляваньня ў гэтых заказьніках здавальняючыя, за выключэньнем заказьніка Іванькаўшчына, у якім дзічы было ня вельмі многа, ды і тая была вельмі старожкая з прычыны таго, што ўвесь сэзон там пасьвілі скот і акруговаму т-ву за ўсё лета немагчыма было дабіцца ад Сураскага РВК забароны пасьвіць скот.

Пры адчыненьні паляваньня ў гэтых заказьніках своечасова было праведзена мерапрыемства па адстрэлу ня больш 5 птушак на адну стрэльбу. Гэтае мерапрыемства не дало магчымасьці павыбіць у заказьніках дашчэнту дзічыну, якая там расплазілася за некалькі год. Пасьля 15 верасьня павялічыўся і лік дзічыны, зданай па дагаворы ў ЦРК. Трэба адзначыць той недахоп, што ЦРК не прэміраваў здатчыкаў рабцоў, слонак, дуплякоў і інш.

Калі паляўнічыя будуць забясьпечаны боепрыладамі і калі зжыць той недахоп, што кожны паляўнічы ў краме павінен здымаць скурку з зайцоў (а калі зьбярэцца 100 паляўнічых), дык дагавор на пастаўку мяса будзе выканан.

Па мойму трэба было-б прэміраваць і здатчыкаў пушніны ў сваю каапэрацыю. Гэта дапамагло-б выканаць кантрольныя лічбы па пушніне. **Б. Сушкевіч.**

## „Дзядзенька, пусьці!“

Былы старшыня Мазырскага акруговага суду т. Аўдзіевіч, зараз член Менскага акрсуду, пайшоў на паляваньне і забіў зайца раней, чым урадавыя органы пасьпелі выдаць закон аб дазволе страляць зайца.

Забіўшы 1 кастрычніка зайца, Аўдзіевіч схаваў яго ў запазуху, а стрэльбу разабраў і схаваў пад тужурку, каб замесьці сьляды злачынства. Але не пасьпеў ён адыйсьціся з таго месца, дзе быў забіты заяц, як быў злоўлены паляўнічым Баравіком Васілём.

Раней Аўдзіевіч зрабіў нявінны выгляд і на выстрэл з гарматы не падпускаў да сябе Баравіка, потым хацеў па-дабру, па-здарову ўцячы, потым гаварыў, што зайца забіў няўмысьля і, урэшце, стаў прасіцца:

— Дзядзенька, адпусьці! Я больш ня буду. Адпусьці!

Так Аўдзіевіч клянчыў да праўленьня Мазырскага акртаварыства, а там ён зусім перастаў гаварыць і сядзеў аслупеўшы, нібы перад ім былі ня жывыя людзі, а трупы, трупы зайцаў!

Вывад зробіць, каму належыць. **Зоркі.**

## Заказьнік не ахоўваецца

У Прыпяцкім лясьніцтве, Петрыкаўскага раёну, Сьнядзінская дача ўзята пад заказьнік. Там ёсьць шмат зьвяроў і птах, напрыклад: дзікі, лісы, зайцы, глушцы, цецярукі, пардва і г. д. Але кепска тое, што заказьнік зусім не ахоўваецца.

Ёсьць там вартаўнікі, якія зусім ня сочаць за заказьнікам. Трэба ўзяць новага вартаўніка, даць яму пэнсію і патрабаваць аховы заказьніка, каб народнае дабро не прападала дарма.

**„Ахотнік“.**

**Да ведама паляўнічых:** **Прыём тушак зайцоў утвараецца на сальным складзе МЦРК (Менск, 1-ая Лекерта, д. № 16).**

**Гор. т-ва паляўнічых.**

# ВАЎКІ ЗЬНІШЧАЮЦЬ СТАТАК,

## а паляўнічыя не рэагуюць

### Арганізавана ўзяцца за зьнішчэньне ваўка—шкодніка паляўнічай гаспадаркі

#### Быхаўскія паляўнічыя не змагаюцца з ваўкамі

У Быхаўскім раёне ня так даўно ваўкамі зарэзана пяць коняй. Паляўнічыя не змагаліся ўлетку з ваўкамі і яны спакойна да таго расплядзіліся, што распаўсюдзіліся і па суседнім Журавіцкім раёне.

З наступленьнем зімы па белай сьцежцы трэба прыняцца ў гэтых раёнах за зьнішчэньне ваўкоў.

**В. Кая.**

#### „Нам ваўкі ня шкодзяць"...

Шаршунская паляўнічая ячэйка, Заслаўскага раёну, рабіла аблаву на ваўкоў. Але ў гэтай ячэйцы мала паляўнічых. Тады яна зьвярнулася да Новадворскай ячэйкі за дапамогай. Але некаторыя паляўнічыя, асабліва жыхары в. Камянец, заявілі: „ваўкі нам ня шкодзяць".

Тым часам ваўкі не разьбіраюцца, якая сьвіньня ці авечка з в. Камянец, а якая з Шаршуні.

**Кастусь К.**

#### Ня ўсе паляўнічыя ведалі аб аблаве

У жніўні адбылася аблава каля в. Барвеснаўка, Уваравіцкага раёну. Забіта чатыры маладых ваўкі. Каб усе паляўнічыя ведалі аб гэтай аблаве, можна было забіць больш. (Відаць, ваўкі былі ў абкладзе? Рэд.) Мала было і загоншчыкаў. **С. Карлоўскі.**

### Створым ударныя атрады па зьнішчэньні ваўкоў

#### Ваўком гэта не пашкодзіць

У мінулым годзе Смалявіцкі калектыў паляўнічых правёў аблаву на ваўкоў на тэрыторыі Сьмілавіцкага раёну. Раённае бюро Сьмілавіцкага калектыву паляўнічых абразілася за гэта на сваіх суседзяў. Вядома, ад такіх спраў ваўком не пашкодзіць. Яно так і ёсьць. Ваўкі так палюбілі сваіх абаронцаў, што і ў гэтым годзе расплядзіліся там.

Смалявіцкія паляўнічыя асачылі зноў ваўкоў на тэрыторыі Сьмілавіцкага раёну. Пастанавілі правесьці аблаву 27 жніўня з тым, каб правесьці агульны сход. Але сьмілаўскія паляўнічыя, на чале з членам Валмянскай паляўнічай ячэйкі Герасімчуком прышлі і разагналі ваўкоў яшчэ да пачатку аблавы.

Гэта ёсьць хуліганства і за гэта хуліганства трэба пакараць каго належыць.

**Г. Бруякін.**

#### Забілі толькі аднаго

21 верасьня адбылася аблава, арганізаваная Тураўскім і Жыткавіцкім т вамі паляўнічых. На аблаву прышло 60 паляўнічых і 6 загоншчыкаў. З Тураўскага раёну ня было ніводнага загоншчыка. Загоншчыкаў было мала, таму паляўнічыя пайшлі ў загон. І ў выніку забілі толькі аднаго ваўка з 10 абкладзеных.

**Пацапня.**

---

## Паляўнічая грамадзкасьць узбурана

У часопісе за № 4 за гэты год быў зьмешчан допіс **„Багуцкаму трэба дапамагчы"**, у якім апісвалася, як паляўнічы **Шчуплік** пакалечыў на паляваньні тав. Багуцкага. (Абодвы—паляўнічыя Віцебшчыны).

Як-жа **Віцебскае** т-ва паляўнічых дапамагло т. Багуцкаму і пакарала Шчупліка?

А вось як: жонка Багуцкага абівала парогі Віцебскага т-ва паляўнічых, а яго кіраўнікі адкрыта зьдзекваліся з Багуцкага. Шчуплік-жа вольна трымаў стрэльбу і мог калечыць людзей. Урэшце, пад уплывам паляўнічай грамадзкасьці Шчуплік быў выключан з саюзу паляўнічых, а Багуцкая, жонка пакалечанага, працягвала абіваць парогі, але і гэта толькі „каліф на час". Зараз Шчуплік прынят у саюз паляўнічых зноў і зноў можа тварыць сваю ганебную справу.

Паляўнічая грамадзкасьць рашуча пратэстуе супроць гэтага, дамагаецца ад судовых і іншых органаў дапамогі Багуцкай, а Шчупліка, які нават ня хоча прызнаць сваю віну, выключыць з саюзу.

Такім паляўнічым ня месца ў саюзе.

Трэба яшчэ адзначыць, што Віцебскае т-ва паляўнічых наогул ганебна аднеслася да справы Багуцкага. Калі апошні памёр удава Багуцкага зьвярнулася за дапамогаю ў т-ва, каб пахаваць нябожчыка грамадзкім парадкам, але бюракраты з т-ва махнулі на гэта рукою.

---

### Браканьерскія справы суд цягне

15 чэрвеня быў злоўлены на паляваньні браканьер Хітрыкаў Фёдар Ярмолаў. Стрэльбу ён пасьпеў схаваць, але справа была перададзена праз Бабруйскае т-ва паляўнічых у суд. Ужо прайшло шмат часу, а суд і дагэтуль цягне гэту справу.

**Ш—ёў А.**

### Дзікі шкодзяць

У Тураўскі раён сталі часьцяком прыходзіць дзікі і шкодзяць пасевам. Дазволена адстраляць 25 кабаноў, а куль няма.

Чым-жа адстраляць кабаноў, як вы думаеце, таварышы з Тураўскага т-ва паляўнічых?

**Пацэпня.**

# ШРОТАМ, ПОРАХАМ, КАПСУЛЯМІ, ПАТРОНАМІ ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ СЭЗОН ПУШНЫХ ЗАГАТОВАК

## Зрывае нарыхтоўку пушніны

Па віне старшыні Камарынскага раённага т-ва Вергеенка ў раёне зрываюцца пушныя нарыхтоўкі. У раёне ёсьць каля 300 паляўнічых, якім за боепрыладамі прыходзіцца езьдзіць за некалькі дзесяткаў кілёмэтраў або ў Брагін, або ў Гомель.

Старшыня Вергеенка ня хоча займацца паляўнічымі справамі. Ні шроту, ні пораху, ні іншых боепрыладаў у магазыне няма.

Калі так будзе працягвацца надалей, дык паляўнічыя не дадуць пушніны, бо ня будзе чым дабываць яе.

**Сідарэнка.**

## Паляўнічыя разумеюць важнасьць рэалізацыі пазыкі

Паляўнічыя Асіпавіцкага раёну на агульным сходзе 8 верасьня пастанавілі падпісацца на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ на дзьве тысячы рублёў.

Зараз-жа на сходзе было сабрана падпіскі на сто дзесяць рублёў. Як праходзіць падпіска на пазыку ў іншых раёнах?

**Санчанка.**

## Бярыце прыклад

Старшынёй Баравікоўскай паляўнічай ячэйкі быў Бандарэнка Рыгор. У ячэйцы ня толькі ня было аніякай працы, але Бандарэнка пакрываў браканьераў і задавальняў іх боепрыладамі. На такую дзейнасьць Бандарэнкі паляўнічыя зьвярнулі ўвагу, назначылі сход, на якім і выгналі шкодніка Бандарэнку з ячэйкі.

Зараз-жа новым складам ячэйкі разам з паляўнічымі быў складзен сьпіс на браканьераў і перададзен міліцыі для адбіраньня стрэльбаў.

**Вайнэровіч.**

## Лепш на баку паляжаць

Дамінікоўская ячэйка паляўнічых Полацкага раёну зьвярнулася ў краму № 28 спажывецкага т-ва аднosна нарыхтоўкі грыбоў. Там адказалі, што для засолкі нарыхтаваных грыбоў няма пасуды, няма спэцаў, няма часу. Цікавей за ўсё тое, што „няма часу“. У краме зараз вельмі мала тавараў і раптам— „няма часу“. Я думаю, што працаўнікам гэтага спажывецкага таварыства хочацца лепш на баку паляжаць, чым нарыхтоўкай грыбоў займацца.

**Паляўнічы.**

## „За 10 рублёў не хачу працаваць“

Калі ні зойдзеш у Чэрвеньскае т-ва паляўнічых да т. Казакевіча, ніколі не атрымаеш боепрыладаў. Пачні гаварыць з ім, дык ён табе адкажа: за 10 рублёў пэнсіі ў месяц не хачу абслугоўваць.

Тым часам паляўнічыя не задавальняюцца боепрыладамі, пушныя загатоўкі ад гэтага зьмяншаюцца, а наш раён бедны на зьвера!

За такую працу т. Казакевічу і дзесяць рублёў многа.

**Б. В.**

## Шроту ня бывае

Вельмі часта ў Гомельскім т-ве няма шроту. Напрыклад, у гэтым годзе амаль усё лета ня было шроту. Паляўнічыя плацілі па 5 рублёў за кілё. Усё гэта адбілася на выкананьні дагавору на пастаўку дзічы.

Трэба больш падумаць аб гэтым, каб ня былі сарваны і пушныя загатоўкі.

**Паляўнічы.**

## Марудная справа

Згодна дагавору „Белкохотсоюза“ з Белкаапсаюзам кожны паляўнічы павінен здымаць скурку з зайца пры здачы, у краме. А што будзе, калі прыдуць адразу 10 паляўнічых? Вельмі марудная справа з гэтымі скуркамі.

Калі каапэрацыя баіцца, каб не здавалі замест зайца ката, дык паляўнічы можа пакінуць лапку, што і будзе служыць доказам. Можна скуркі здымаць з зайцоў і самім працаўнікам сталовак. Наогул гэты пункт трэба зьмяніць.

**Паляўнічы.**

## Ня наша справа

„Белкохотсоюз“ шмат гаварыў аб нарыхтоўцы грыбоў, а не падумаў аб тым, чым прэміраваць сялян. Белдзяржгандаль прэміруе махоркай, мануфактурай і іншымі рэчамі, якіх у паляўнічай каапэрацыі няма.

Паведамлялі, што недзе ёсьць швэйныя машыны, але дзе яны? Апроч таго, на машыну трэба здаць шмат грыбоў. Мне здаецца, што з грыбамі ня наша справа.

**С—ка А.**

**Ад рэдакцыі:** Паляўнічых можна прэміраваць боепрыладамі.

## Так працаваць нельга

У Пухавіцкім т-ве паляўнічых ёсьць яшчэ шмат варожага элемэнту. Усе чысткі, якія адбываліся ў нашым т-ве, яшчэ ня выявілі ўсіх тых, хто не павінен быць членам саюзу паляўнічых.

Шмат і іншых недарэчнасьцяй. Напрыклад, цэны на тавары ўстанаўляюцца самім прыказчыкам крамы Завацкім. Праца райтаварыства слабая. Барацьбы з браканьерамі і бадзячымі сабакамі няма. Агульнагрмадзкія кампаніі, праводзімыя савецкай уладай на вёсцы, райтаварыства ня цікавяць.

Так працаваць нельга. Трэба пераабраць райбюро і праверыць сацыяльны склад паляўнічых нашага раёну.

**Паляўнічы В.**

## Спажывецкае т-ва парушае дагавор

У Брагінскім раёне паляўнічыя прывіталі дагавор, заключаны „Белкохотсоюзом“ з Белкаапсаюзам на пастаўку дзічы.

Як толькі пачаўся паляўнічы сэзон, шмат хто панёс здаць дзічыну ў сталоўку спажывецкага т-ва, што ў Брагіне. Але там не асабліва хацелі прымаць дзіч. Нават і пасьля таго, як сам старшыня т-ва паляўнічых дагаварыўся з праўленьнем спажывецкага т-ва, гэтыя недарэчнасьці паўтараліся.

**Сідарэнка.**

# АПАВЯДАНЬНІ І НАРЫСЫ

## Восеньская песьня

(*Працяг*)

III

Ведаю я, як вы страляеце!

Ведаю вашых пойнтэраў і сэтэраў: „апортаў“ і „джымаў“! Яны, „апорты“ і „джымы“, падвядуць вас да самага цецярука. Будуць глядзець разумнымі лягавымі вачыма на старожкую птушку. Будуць трэсьціся целам і хітра выкручваць хвастом: „ёсьць!“—крыкні—давай! І не засьвішчуць больш крыльлі. Яшчэ на ўзьлёце зьнясіліць іх шрот-здраднік. Сабака-мастак скончыў сваю шпіёнскую работу. Цяпер ён нявольнік. Глядзіце, як лісьліва і падатна глядзяць яго разумныя вочы! Ён нясе вам зьбітую нашчэнт птушку. Вы—трус! Маглі-ж бы выстраліць і на сорак-пацьдзесят крокаў. Маглі-б! Але пабаяліся, што ня трапіце. Ня здольны страляць з падрыву. Кожны дурань будзе біць з пад сабакі... З пойнтэрамі і сэтэрамі ходзяць не мастакі, спортсмэны. Грубы мясьнік вымуштраваў скаціну, каб, як у сьвінарніку, лёгка браць здабычу...

Што ёй мог адказаць Мікола? Толькі тое, што паляўніцтва адыгрывае вялікую ролю ў народнай гаспадарцы. На мільёны рублёў вывозім пушніну за межы. Каб адтуль цягнуць трактары, абсталяваньне для новых волатаў—заводаў і фабрык. Добрыя сабакі—свайго роду мэханізацыя паляваньня. Мэханізуем-жа мы сельскую гаспадарку!

Мікола гаварыў. Гаварыў і бачыў, як нездаволена яна моршчыла прыгожыя дугі павекаў. Чорныя вочы неяк хітра глядзелі паверх рэдкіх дрэў. З бо у, у яе сетцы сплёўся вялізны чорны клубок цецярукоў. Яна сказала Міколу, што забіла шэсьць штук.

— А колькі патронаў выпусьцілі?

— Шэсьць.

— За ўсю раніцу?

— За ўсю раніцу. Што тут дзіўнага?

Ці варта было недавяраць? Мікола сам бачыў яе дзівосны спрыт, калі крокаў за дзесяць парваўся цецярук. Яна не страляла. Выбірала мгненьне патрэбнай адлегласьці. І калі было крокаў шэсьцьдзесят — перастала зьвінець у паветры гнуткае, выбеленае зьнізу пер'е!

—Вы скончылі якую школу?—спытаў інжынэр, калі яны ішлі дахаты.

— Скончыла. Унівэрсытэт нашай настаўніцы Мазанік. Тры гады таму назад. Усе курсы прайшла па адным лемантары.

— А больш нідзе ня вучыліся?

— Нідзе.

— І нічога не чыталі?

Лёгкая задуменнасьць узьбегла на яе твар.

— Чытала і чытаю. Газэты, часопісі, кніжкі. — І як-бы выхваляючыся, дадала:—Леніна чытала, Дарвіна. Бяда, што мала кніжак у нашай бібліятэцы. Дый тыя бяруць на расхват.

Мікола глядзеў на яе дзявочую постаць, на высокі, прыгожы лоб. Хацеў пранікнуць у схованку яе думак і жаданьняў. Дазнацца самых упартых імкненьняў новай жанчыны.

І раптам Гэля сказала:

— Вы ведаеце, чаго я хачу?

Яны цяпер падыходзілі да калгасу, Крыга з Пархімам пашлі дахаты яшчэ раней. Мікола наўмысьля адстаў ад іх, каб пагаварыць з дзіўным паляўнічым-жанчынай.

— Я хачу вучыцца. На інжынэра. Каб пасьля зноў прыехаць у свой калгас. У нас ёсьць свае трактарыстыя, кавалі, масларобы, а от інжынэра няма. Такога інжынэра, каб асушыў балота, каб сваёю навукаю дапамог вылезьці з гразі нашых дарог.

— А каб прыехаў такі інжынэр у ваш калгас? І тады-б паехалі вучыцца?

Яна задумалася на некаторае мгненьне.

Потым кінула яму мяккі і цёплы погляд сваіх вялікіх вачэй.

— Чаго? Калі будзе такі чалавек, дык чаго ехаць.



У тых хмызьнякох мы ўзялі ліса...

Нязьмерная радасьць забурліла ў галаве маладога інжынэра. Нават ён сам зьдзівіўся ад свайго настрою. Потым пачуў зноў голас-песьню жанчыныпаляўнічага:

— А калі ў нас будзе два інжынэра? Не пашкодзіць. Лепш паеду вучыцца!

Пасьля, калі Мікола канчаў палуднаваць, у сталоўцы ўзьняўся шум і ўсе рынуліся да вокнаў. Нехта крыкнуў:

— Гэля, Гэля на „д'ябла" села! От баба!

Мікола ўстаў з-за стала і глянуў на калгаснае гумно. Да яго з усіх бакоў зьбягаліся старыя і малыя. А на самым гумнішчы выкручваўся ў шалёным танцы гняды конь. То падскакваў уверх, кідаўся то ў адзін, то ў другі бок, або, прыгнуўшы галаву, ветрам імчаўся ў які канец, каб там раптам застанавіцца. Усе спосабы перабіраў гняды, каб скінуць з сябе чалавека, які задумаў падняволіць яго маладосьць. Але чалавек упарта не пакідаў шырокай конскай сьпіны. І чалавекам гэтым—пазнаў Мікола здалёк—была Гэля!

Мікола пачаў апасацца. Мужчыны, што стаялі каля яго ў сталоўцы, пачнуць сыпаць абразы. Скажуць, у галаве сталі ад розуму не мазгі, а каляніца. Ды памыліўся.

— Трымаецца!—ішоў зьдзіўлены шопат па залі.— Язэп і той учора пяць разоў скаціўся, а яна сядзіць. Гляньце, гляньце: спакайней пашоў „д'ябал!"... Ого! загрымелі галасы.—Павадка слухае!

IV.

Кажуць, у Крыгі прыбавіўся яшчэ адзін калгасьнік. Ім зрабіўся той чалавек, які разам з вечным пастухом Пархімам хадзіў за вясковым статкам. Новы калгасьнік—чалавек вучоны і ім „Полымя" вельмі ганарыцца.

Калі ў калгасе непрацоўны дзень (бесьперапынка яшчэ ня ўведзена) можна бачыць раніцаю, як ад будынкаў ідуць у лес двое людзей. За плячыма іх мільгацяць стрэльбы І ў час адыходу гэтых людзейнедзе на калгасным двары вые, сумуе па вострым паху дзічыны сабака. Яго мужчына і жанчына-паляўнічыя не бяруць з сабою... **Мак. Пасьлядовіч.**

# Шэраяваўчыца

— Біль, туба!—раптам крыкнуў Дзюс.—Ляжаць! Біль стаяў над лазовым кустом і чуць-чуць віляў пушыстым хвастом. Дзюс параўнаўся з Білем і загадаў:

— Біль, вазьмі!

Біль раптам кінуўся ў куст, але таксама хутка і вылецеў, адтуль з разарваным акрываўленым вухам.

— Што там за чорт?—крыкнуў Дзюс і зараз-жа палез сам у лазовы куст.

Калі Рыгор Дубіна і Пецька Заіка падыйшлі да гэтага месца, Дзюс вывалак з куста маладога ваўчонка. Потым зьвярнуўся да Рыгора:

— На, патрымай!—і зноў палез у лазовы куст.

Адразу-ж Дзюс адтуль пачаў выкідаць аднаго за адным няжывых ваўчанят. Іх было трое.

— Сумленнае слова, што з гэтага ваўчаня будзе геройскі вартаўнік, калі яму даць добрае выхаваньне,—зьвярнуўся Дзюс да таварышоў.—Глядзеце, як ён мяне за руку хваціў!

— Я думаю, што яго трэба ўзяць у калгас,—ён у нас вырасьце,—зьвярнуўся Дубіна да Дзюса.

— Ну, вядома, не пакінем тут!—разам адгукнуліся Дзюс і Пецька Заіка.—Але справа ня ў тым: нам трэба зьнішчыць старых ваўкоў, а то жыцьця ня будзе ад іх зараз,—закончыў Дзюс.

— Ваўкі будуць шукаць сваіх дзяцей і мы прыдзем сюды сёньня ўначы.

— Не, Рыгор. З гэтага нічога ня выйдзе. Ты бачыш, што трое ваўчанят паздыхалі. Выжыў: амы дзябёлы з чатырох. Гэта значыць, што ваўчыца даўно ўжо не карміла іх. Відаць, яна баіцца падыйсьці да балота пасьля таго, калі тут стала гарэць электрычнасьць, на нова пабудаванай электрастанцыі.

— Пасьля таго прайшло роўна пяць дзён,—заключыў Пецька Заіка.

— Гэта можа быць,—згадзіўся Рыгор.

— А адсюль вывад!—ускрыкнуў Дзюс.—Мы прыдзем сюды ўначы ня сёньня, а перад нядзеляй. Ваўкі ўвесь час будуць хадзіць каля балота, але прабрацца да гнязда яны ня змогуць, бо ўсе гэтыя ночы будзе гарэць электрычнасьць. А з суботы на нядзелю мы можам іх пастраляць.

— Магу біцца аб заклад з кім угодна з вас, што сёньня ваўкі будуць нашы,—сказаў Дзюс, падыходзячы ў цёмную ноч з суботы на нядзелю да таго месца, дзе знайшлі ваўчанят.—Усе козыры ў нас: і электрычнасьць не гарыць, і ветру асабліва няма, і ваўчанё добра папісквае.

— Ідзе! Я стаўлю сваю новую шапку супроць тваёй старай,—згадзіўся Рыгор.

— Я скурку найбольшага ваўка, які пападзецца мне на мушку, супроць дупляка ад першага паляваньня,—падліў масла Пецька Заіка.

Ноч была страшэнна ціхая. Даволі было пазіхнуць для таго, каб парушыць гэту ўрачыстую цішыню. Паляўнічым кепска было ўтрымацца, каб не напалохаць ваўкоў—такая была ціхая ноч! Ваўчанё тузалася на лунцугу каля куста, пішчэла, завывала Раптам паветра ўздрыгнула ад моцнага баса ваўка, які выў недзе далёка і ауууу... пакацілася між кустоў.

Паляўнічыя заталі дух. Першай бегла ваўчыца. Калі яна пачула пах свайго роднага, любага сэрцу дзіцяці, не ўцярпела—піскнула. У гэты час яна не памятала сябе. Інстынкт маткі ўзяў верх над халодным разважаньнем розума і ваўчыца двума вялікімі скачкамі апынулася каля ваўчаня, а за ёй пасьледваў воўк.

Ваўчыца радасна пішчэла, лізала ваўчаня, бегала вакол яго, прысядала на пярэднія лапы і глядзела на яго агнявымі вачыма маткі. Воўк таксама лізнуў свайго сына і завіляў хвастом. А ў гэты момант тры стрэлы зьліліся ў адзін. Ваўчыца закружылася на адным месцы з прабітымі лёгкімі, але хутка справілася і скакнула на куст. Адтуль пачуўся моцны крык чалавека. Ваўчыца так нечакана была засьцігнута стрэлам, што не заўважыла, адкуль нёсься гэты агонь сьмерці. Таму яна скакнула за той куст, дзе сядзела засада. Ваўчыца не хацела паміраць. Яна так была рада, што знайшла тое маленькае стварэньне, па якім яна гаравала апошнія дні. Яна ўпілася вострымі, белымі клыкамі ў мяккае мяса Пецькі Заікі. З апошніх сіл ваўчыца старалася змагацца за жыцьцё. Яна вырывала кускамі мяса чалавека. Чалавек і ваўчыца спляліся ў адзін агульны клубок і качаліся па траве між кустоў.

— Рыгор! Рыгор, што глядзіш?—крыкнуў Дзюс. Ен сільным скачком апынуўся каля Пецькі Заікі. Біў нагой ў бок ваўчыцы, але тая, ня гледзячы на сваю рану і на ўдары, не давала падняцца апошняму.

Рыгор апусьціў стрэльбу і стаяў, як аслупелы. Яго мазгі не маглі так хутка прыняць якое небудзь рашэньне. Страляць было нельга—гэта ён ведаў. Рыгор глядзеў перад сабой і нічога ня бачыў. Толькі моцны ўдар кулака Дзюса прывёў яго ў сябе.

Усьлед за тым Рыгор улавіў няясныя гукі Пецькі Заікі:

— Рыгор, браток...

І Рыгор прыняў рашэньне дзейнічаць. Двума моцнымі скачкамі ён апынуўся там, дзе зьвер з чалавекам вялі барацьбу за жыцьцё. Моцныя пальцы Рыгора сьціснулі шыю ваўчыцы. Яна раней не здавалася, але чым мацней цісну Рыгор шыю ваўчыцы, тым слабей рабіліся яе ўкусы. Рыгор упёрся нагой у сьпіну ваўчыцы і так сьціснуў ёй шыю, што ваўчыца раскрыла ляпу і больш не магла зачыніць.

Ваўчыца кінула ірваць адзежу чалавека разам з мясам.

Пецька стаў на ногі, але хістаўся, як п'яны.

— Ах, Пецька, бедны Пецька!—сказаў Дзюс.

— О, чорт бы яе пабраў гэту ваўчыцу!—прасканаў Заіка.

— Я табе зраблю перавязку, а ты замаўчы. Ваўкоў баяцца—у лес не хадзіць. Хлопец ты ёмкі, вытрымаеш!...

Дзюс атадраў ад сарочкі рукаў, падраў яго на кавалкі і як небудзь, у цемры, пачаў перавязваць Пецьку. Апошні стагнаў і моцна крычаў тады, калі Дзюс датыкаўся сваімі мазолістымі, нязграбнымі рукамі да яго ран.

Калі перавязка была скончана, кроў перастала ліцца з пакусаных, разадраных клыкамі ваўчыцы месц. Пецька супакоіўся і нават павесялеў, нібы з ім нічога асаблівага ня здарылася, а Дзюс, запаліўшы сярнічку, пачаў разглядаць здабычу.

Воўк ляжаў на тым месцы, дзе яго застаў набой Дзюсавай дубальтоўкі з прабітым наскрозь карцеччу бокам. Рыгор прыцягнуў і паклаў побач ваўчыцу. Дзюс запаліў другую сярнічку і абгледзіў здабычу.

**Мік. Целеш**

## ШКАЛА

(Пачатак глядзі на 2-ой стар. вокладкі)

*(Працяг)*

| Катэгорыя | Група | Назва груп | Пай Руб. | Пай К. | Уступныя Руб. | Уступныя К. | Арганізацыйны Руб. | Арганізацыйны К. | Блянк-білету Руб. | Блянк-білету К. | У касу Ўзаемадапамогі Руб. | У касу Ўзаемадапамогі К. | Дзяржпошліна Руб. | Дзяржпошліна К. | Усяго Руб. | Усяго К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | в. | Асобы каманднага складу Чырвонай арміі, міліцыі, ДПУ, чыгуначная варта і лясная адміністрацыя, якія зарабляюць ад 175 руб. да 225 руб. у месяц . . . . . . . . . | 30 | — | 3 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | 50 | — | — | 35 | 70 |
| 7 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 225 руб. да 260 руб. у месяц . | 40 | — | 4 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | 50 | 1 | — | 47 | 70 |
| | б. | Сяляне, якія плацяць с.-г. падатак з процантнай надбаўкай. . . . . | 40 | — | 4 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | 50 | 1 | — | 47 | 70 |
| | в. | Асобы каманднага складу Чырвонай арміі, міліцыі, ДПУ, чыгуначная варта і лясная адміністрацыя, якія зарабляюць ад 225 да 260 р. і звыш | 40 | — | 4 | — | 1 | — | — | 20 | 1 | 50 | — | — | 46 | 70 |
| 8 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 260 р. да 400 р. у месяц . . . | 50 | — | 5 | — | 2 | — | — | 20 | 2 | — | 1 | — | 60 | 20 |
| | б. | Саматужнікі, якія карыстаюцца наёмнай рабочай сілаю і асобы вольнае прафэсіі . . . . . . . . . . | 50 | — | 5 | — | 2 | — | — | 20 | 2 | — | 1 | — | 60 | 20 |
| 9 | а. | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 400 р. і звыш . . . . . . | 70 | — | 7 | — | 4 | — | — | 20 | 3 | — | 1 | — | 85 | 20 |

УВАГА: I. Растэрміноўка паю для ўноў уступаючых дазваляецца на працягу 6 месяцаў пры ўмовах уплаты пры ўступленьні ня менш 50 проц. паю. Старыя пайнікі павінны пай унесьці цалкам пры перарэгістрацыі згодна гэтай шкалы.

„ II. Кваліфікаваныя рабочыя, якія зьяўляюцца сэзоннымі беспрацоўнымі, адносяцца да катэгорыі на падставе заробку ў час працы на працягу апошніх 3-х месяцаў да моманту беспрацоўя.

„ III. Дэмабілізаваныя чырвонаармейцы праз год адносяцца да тэй ці іншай катэгорыі.

„ IV. Вучні і студэнты, якія атрымліваюць стыпэндыю, адносяцца да катэгорыі асоб, на ўтрыманьні якіх яны жывуць.

Да графы „У касу Ўзаемадапамогі". Акрамя паказанай сумы з кожнага ўноў уступаючага трэба спаганяць 25 кап. уступ. узносу ў касу Ўзаемадапамогі.

*РЭДКАЛЕГІЯ:* **Міх. Шмідт, П. Тамашэўскі, Г. Сільнікаў.**

*АДКАЗНЫ РЭДАКТАР* **М. Шмідт.**

# Палітычная сатыра.

У Заходняй Украіне.



Заміраньне ў Польшчы ў разгары.

Жорстка караць апартуністых, якія дапамагаюць кулаку сабатаваць цьвёрдыя заданьні па хлебазагатоўках.




Асобны від здачы кулацкага хлеба

„У барацьбе з калгасамі“.




„Сядзіць каля мора, чакае пагоды“.




„І абрэзам і абразом“.

Друкарня БДВ імя Сталіна. Заказ № 2633. У ліку 17.000. Галоўлітбел № 3348.